Незалежная газета

# НАША НІВА

№ 18 (951)
11 мая 2016

1991

№ 18 (951) 11 мая 2016 www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

2016


# НОВЫ ЭТАП

25 гадоў аднаўленню газеты «Наша Ніва». Першая паласа гэтага нумара стылізавана пад першы нумар «НН» 1991 года. А з 1 ліпеня наша газета на паперы моцна зменіцца.

Праз 25 гадоў пасля аднаўлення «Нашай Нівы», праз 110 гадоў ад яе заснавання Рэдакцыя робіць важны крок.

Цяпер «Наша Ніва» — гэта ў першую чаргу інтэрнэт-сайт NN.BY.

А на паперы ад 1 ліпеня «Наша Ніва» будзе выходзіць у фармаце штомесячніка на 24 старонках.

Інтэрнэт — бо за ім будучыня.

Інтэрнэт — бо яго чытае моладзь.

Інтэрнэт — бо ён даступны імгненна і на ўсёй планеце.

Гэта тэхналагічная рэвалюцыя, якая адбываецца па ўсім свеце. Пераход з паперы ў інтэрнэт такі ж эпахальны, як калісьці вынаходніцтва кнігадруку ці электрычнасці. Не трэба яго баяцца: беларуская культура, беларуская супольнасць дастаткова моцныя, і лічбавая рэвалюцыя нам дае новыя магчымасці для развіцця.

У папяровым штомесячніку будзе друкавацца самае істотнае, нестарэючае: аналітыка, гутаркі, гісторыя, літаратура.

Падпісны індэкс застаецца той самы: 63125.

Форма мяняецца, сутнасць нязменная. «Наша Ніва», як і 110 гадоў таму, «служыць усяму беларускаму народу» і будзе «люстрам жыцця, каб ад нас, як ад люстра, святло падала ў цёмнасць».






НАША НІВА

Dva centry: Vilnia ci Miensk?

Што здарылася? Крымінальная хроніка.

Дж.Д.Сэлінджэр

УЛЯЛЮМ

Мытыя яблыкі

25 гадоў таму, у маі 1991 года, быў адноўлены выхад газеты «Наша Ніва». **Злева вы бачыце першую паласу першага нумара той газеты.**

Спачатку яна была штомесячным выданнем. У 1996 годзе стала штотыднёвым, але ў канцы года перайшла на выхад два разы на месяц. Тады ў газеце друкавалася пераважна публіцыстыка, літаратура і гісторыя (**старонка 2**).

Канчаткова штотыднёвай «НН» стала з 1999 года, і ў такім фармаце на паперы праіснавала 17 гадоў.

Цяжкія часы газета перажыла з 2006 да 2008 года, калі распаўсюд праз «Белсаюздрук» і «Белпошту» быў забаронены. Але ж выстаяла дзякуючы валанцёрам, якія дастаўлялі яе падпісчыкам і тым людзям, што ахвяравалі на выданне грошы.

Але галоўнае, што адбылося дзякуючы той забароне, — ад 2006 года «НН» узяла курс на развіццё сайта. Аказалася, за інтэрнэтам будучыня.

На сёння сайт «НН» мае найбольш праглядаў сярод сайтаў усіх даўнейшых газет. Мы першымі сталі развіваць відэа на сайце, сярод першых стварылі старонкі ў сацыяльных сетках, у апошні час вялікім поспехам стала версія для мабільных тэлефонаў M.nn.by.

NN.BY — самая папулярная старонка на беларускай мове.

Згодна з Google Analytics, у інтэрнэце штомесяц на nn.by заходзяць з паўмільёна камп'ютараў, праглядаюць 7 мільёнаў старонак. Заснавальнікі «НН» пра такое маглі толькі марыць.

У 1991 Ніл Гілевіч быў катэгарычна супраць аднаўлення «Нашай Нівы». Ён лічыў, што выданне павінна застацца помнікам. Як паказаў час, ён не меў рацыі, а Сяргей Дубавец быў правідцам. «Наша Ніва» аказалася запатрабаванай.

## Імперскія гімны, яблыневыя бутаньеркі

Дзень Перамогі адзначыўся дзівацтвамі.
**Старонка 3.**

## Разборкі ў Баранавічах

Бацька дапамог сыну збіць чужое дзіця.
**Старонка 12.**

## Ролі Усевалада Фальскага

Пра лёс першага наркама замежных спраў Савецкай Беларусі піша Ніна Стужынская.
**Старонка 14.**

# «Наша Ніва»: 25 гадоў з вамі

«Беларусь пачынаецца з вайны. Першы ўбачаны чалавек — ветэран ці ўдзельнік. Чалавек, сям'ю якога не абмінула вайна. Першы ўбачаны беларускі помнік, эмблема рэспублікі і горада — помнік вайне. Першая беларуская кніжка і першы беларускі фільм — пра вайну. Першае нацыянальнае свята, першы ўрок, першая гульня...

Сама гісторыя Беларусі пачынаецца з мінулай вайны. З Айчыннай вайны савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З Другой сусветнай... Кожны народ вынес з яе свае сімвалы, героіку і трагізм. Для Беларусі яны сталі нацыянальнымі сімваламі веры. Партызанка і Хатынь. У гэтых сімвалах беларус адчуваецца самім сабою, як ні ў чым іншым».

**Сяргей Паўлоўскі (Дубавец). №1. 1991.**

Настальгія па Менску. Наўрад ці мінчук распавядзе табе мінскую гісторыю. Не гісторыю горада, а менавіта гарадскую гісторыю. У кожнага горада мусіць быць такая: пра купцоў, якія селі на мель, ці пра Напалеона, які хацеў на далоні перанесці ў Парыж касцёл, ці пра заклятую панну... Мінская гісторыя — гэта Няміга. Як пасярод мірнага часу людзі руйнавалі свой стары горад і здымалі гэта ўсё на кінастужку, як сюжэт нядаўняй агрэсіі. Сумлёўнае мастацтва патрабавала зусім рэальных ахвяраў.

**Мін-Чанін. №9. 1992.**

Mienskaja opera. Jana skazała, što, argača Kafki, nichto nia piša sionnia takich žudasnych historyjaŭ.

Ja aściarožna padziakavaŭ. Potym była kaviarnia, my siadzieli niebiaśpiečna blizka, pjany ž śmiešny Lanhbard viorz nam nieśta pra neobaroka.

**Ihar Babkoŭ. №18. 1993.**

Лукашэнка і самбрэра. Вельмі ўжо да твару Алесю Рыгоравічу Лукашэнку звычайнае мексіканскае самбрэра. Надта ж зручная рэч, нашмат лепшая за цюбецейку ці генеральскую папаху. І ў спёку заўсёды цень знойдзеш, і ў дождж не змокнуць дэпутацкія плечы. Насіў бы і насіў Алесь Рыгоравіч сваё самбрэра, у якім так хораша гойсаць на саўгасным «козліку» ад кароўніка да свінарніка, але закінуў лёс Лукашэнку ды ў сталіцу.

**Адам Глобус, Максім Клімковіч, Уладзімір Сцяпан. №25. 1994.**

Не зломіш! Самае істотнае, што трэба зразумець: не па беларушчыне і незалежнасці нанесены ўдар. Гэта толькі наступствы. Удар нанесены па дэмакратыі, па ўсіх людзях з дэмакратычнымі поглядамі, незалежна ад мовы і сацыяльнай арыентацыі. У Беларусі згвалтаваны закон, і праціставіць гэтаму гвалту мусяць усе свядомыя законапаслухмяныя грамадзяне — беларусы, расейцы, пісьменнікі, рабочыя, медыкі, фізікі, левыя, правыя, зялёныя.

**Сяргей Паўлоўскі. «НН». №35. 1995.**

Спачатку будзе спроба раскалоць Вярхоўны Савет. Калі такое не здарыцца і будзе пастаўлена пытанне аб імпічменце, я думаю, магчымыя сілавыя метады. Ад гэтага чалавека можна чакаць чаго заўгодна, але раней ці пазней усё гэта скончыцца. Ён спрабуе ўсіх запалохаць, таму што сам баіцца найболей.

**Генадзь Карпенка. «НН». №62. 1996.**

Славамір Адамовіч вызвалены з-пад варты. 7 лютага паэт Славамір Адамовіч, які абвінавачваецца ў замаху на дзяржаўны лад і які амаль год правёў у следчым ізалятары ў чаканні суда, вызвалены. Судовая калегія пастанавіла прызначыць новую, афіцыйную літаратуразнаўчую экспертызу.

**«НН». №79. 1997.**

Я называю гэты час часам змарнаваных магчымасцяў. Але я ўпэўнены, хоць і не надта часта дапускаю нават у думках нейкіх антымістычных паваротаў, але ў гэтым выпадку я цвёрда ведаю, што Беларусь не можа пайсці насуперак усеагульным, сусветным, еўрапейскім працэсам. Толькі шкада, што гэта будзе позна, як заўсёды. Такі наш лёс. Лёс, канечне, жахлівы».

**Васіль Быкаў. «НН». №111. 1998.**

Усе яго ўважалі, так ласкава да яго адносыліся. Бо Юра ж такі: ні голасу ніколі не павысіць, ні пакрыўдзіць чалавека. Вось усе пытаюць, што я адчуваю, ці жывы. Не ведаю, я ўжо не адчуваю. Але я думаю чамусьці, што ён жывы. Зараз я адно хачу: штоб ён быў жывы. Штоб мне яго здалі ўбачыць.

**Ульяна Захаранка. «НН». №135. 1999.**

«Народны альбом» у Мінску. Зала ведала ўсе словы, а «Надзеньку» дык спявала хорам. Пакуль альбом бадзяўся ў Еўропе, народ вывучыў песні з яго на памяць. «Народны альбом» — гэта крыху мюзікл, крыху кабарэ, часам аперэта. Усё разам — феерыя. Сапраўды народная.

**«НН». №166. 2000.**

Лукашэнка выйграў не выбары, а інфармацыйную вайну. Цаной таго, што легітымнасць беларускай улады зноў будзе няпоўнай. Дзяржава Беларусь на гэтых выбарах прайграла.

**«НН». №246. 2001.**

Шантаж па-расейску, адказ па трасянцы. Лукашэнка не дае Маскве магчымасці стварыць іншыя цэнтры ўлады, якія перанялі б у яго ініцыятыву інтэграцыі і палегчылі прыход расейскага капіталу ў Беларусь. Аднак Лукашэнка па сваёй ідэалогіі не здольны забяспечыць і паварот Беларусі да Захаду.

**«НН». №285. 2002.**

Сэкс тут і цяпер. У Беларусі доўжыцца эканамічны ўздым. Далярвая цана нерухомасці расце на 2—3% у месяц. Такія часы «тлустых кароваў» — залатая пара і для сэкс-індустрыі. Грамадства разняволіваецца і прагне асалод. Сціраецца мяжа паміж зонамі сораму і пасіўнай зацікаўленасці.

**«НН». №342. 2003.**

У кожнага часу свае песняры. NRM паўстала з першымі сімптомамі *back in the USSR*. З іх песнямі пражываліся гістарычныя пераломы і заносы. Віхурнага 1996-га не ўявіць без «Партызанскай», змрочнага 1999-га — без «Паветранага шару». Іх музыка была антыподам навакольнага маразму, незалежна ад яго ідэалагічнай прыналежнасці.

**«НН». №363. 2004.**

Незалежнасць ад Скарыны. Напярэдадні 9 мая беларусы даведаліся аб перайменаванні дзвюх галоўных вуліц сталіцы. Праспект Скарыны цяпер будзе праспектам Незалежнасці, праспект Машэрава — Пераможцаў. Прынясенне нацыянальнай гісторыі ў ахвяру сучаснай палітыцы сталася амаль рытуальным. Затушоўванне імёнаў нядаўняга мінулага — характэрная прыкмета нашага часу.

**Віталь Тарас. «НН». №424. 2005.**

Выбары — перад намі! Беларуская праўда прагучала. Яна прагучала на Кастрычніцкай плошчы, ля дзясяткаў беларускіх амбасадаў, на сотнях інтэрнэт-старонак, прагучала і гучыць у сэрцах мільёнаў беларусаў. Ах, нас увесь час бянтэжыць і засмучае, што яна, гэтая праўда, прагучала не так гучна і палка, як хацелася б.

**Пятро Рудкоўскі. «НН». №467. 2006.**

Гаварыць ці маўчаць, сядзець у норцы ці дзейнічаць — гэта пытанне сумлення. Наша сумленне, наш гонар ратуюць сёння хлопчыкі і дзяўчаткі маладафронтаўцы. Я захапляюся імі. Яны цяпер робяць тое, чаго не зрабіла наша пакаленне. Самае галоўнае, што павінен рабіць кожны, — гэта рабіць сябе. Атрымліваць адукацыю, атрымліваць прафесію, кшталтаваць дух і душу. Гэта галоўнае, што павінен зрабіць у жыцці кожны чалавек.

**Святлана Алексіевіч. «НН». №537. 2007.**

БАТЭ праэкзаменаваў «Ювентус». Нават у дзяцінстве мы, напэўна, не верылі, што беларускі клуб некалі зможа выйсці ў Лігу чэмпіёнаў, прывесці да нас «Ювентус» і «Рэал». Таму і гульня 30 верасня на стадыёне «Дынама» — гэта як дакрануцца да мары.

**«НН». №586. 2008.**

Шлюб па разліку. «Калі беларусы выберуць Еўропу, іх будуць чакаць з распасцёртымі абдымкамі. У вас ёсць усе магчымасці, і я думаю, вы іх скарыстаеце», — заявіла Беніта Ферэра-Вальднер у Мінску. Няма сумневу, што тое самае яна казала на сустрэчы з Лукашэнкам сам-насам.

**«НН». №622. 2009.**

Спецназаўцы наступалі шэрагамі, грукаючы ў шчыты. Часта замест застрашэння гэта выклікала смех. Большая частка людзей пабегла да праспекта Незалежнасці. Аднак уздоўж яго стаялі ланцугом салдаты ўнутраных войскаў. Дэманстранты былі ў пастцы — ззаду падціскаў спецназ.

**«НН». №694. 2010.**

Сусветны рэкорд дэвальвацыі. Улада абваліла рубель амаль на 60% за адзін дзень. Але і гэтага аказалася замала.

**«НН». №714. 2011.**

Прадстаўнікі пакалення LAST нарадзіліся ў Саўку, але пасталелі збольшага са свабоднай свядомасцю і праз гэта — з патэнцыйнай магчымасцю стаць сапраўднымі прадстаўнікамі нацыі без комплексу непаўнавартаснасці, «вясковасці», «малодшабратэрства». Прадстаўнікі пакалення LAST проста верылі ў тое, што Беларусь можа быць беларускаю.

**Усевалад Сцебурака. «НН». №755. 2012.**

Царскае сяло: хто ў ім жыве? Побач з рэзідэнцыяй «Дразды» Аляксандра Лукашэнкі, на беразе Свіслачы на паўночным захадзе Мінска, за апошнія 10 гадоў вырас утульны катэджавы пасёлак. На некалькіх квадратных кіламетрах тут можна сустрэць цяперашняга і былых прэм'ераў, старшынь палатаў, міністраў, бізнэсменаў, хакеістаў ды іншых няпростых беларусаў.

**«НН». №793. 2013.**

Гэтым летам апошнім піскам сталі вышыванкі, прычым адразу ад некалькіх вырабнікоў. Аздобленыя чырвоным ромбікам кашулі, як высветлілася, выклікалі пачуццё гонару ў адной часткі грамадства і ледзь не абурэнне — у іншай.

**«НН». №866. 2014.**

«За свае паліфанічныя творы, помнік пакутам і мужнасці нашага часу», — гаворыцца ў фармулёўцы Нобелеўскага камітэта. Святлана Алексіевіч стала першай беларускай, хто атрымаў Нобелеўскую прэмію.

**«НН». №923. 2015.**

## Сціcла

### БДІПЧ АБСЕ заклікала Беларусь увесці мараторый на пакаранне смерцю

Дырэктар Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ Міхаэль Георг Лінк заклікаў Беларусь неадкладна ўвесці мараторый на прывядзенне ў выкананне смяротнай кары ў якасці першага кроку на шляху да яе поўнай адмены.

У Еўропе смяротнае пакаранне захоўваецца толькі ў Беларусі. Астатнія краіны яго не ўжываюць. У той жа час у ЗША, Кітаі, Індыі і Японіі яно захоўваецца.

### Мужчына з нажом параніў трох і забіў аднаго з крыкам «Алах акбар»

Чатыры чалавекі атрымалі раненні, адзін з іх памёр у выніку нападу мужчыны з нажом на чыгуначнай станцыі ў горадзе Графінг каля Мюнхена. Інцыдэнт адбыўся каля 5-й гадзіны раніцы па мясцовым часе. Нападнік затрыманы.

### У Ваўкавыску з п'янствам за рулём будуць змагацца хлебам

У Ваўкавыску хлебазавод выпусціў партыю хлеба са стыкерам «ДАІ папярэджвае: п'яным за рулём не месца!». На хлебазаводзе адзначылі, што першая партыя хлеба з антыалкагольным стыкерам склала 18 тысяч боханаў. Акцыю ініцыяваў начальнік ДАІ Ваўкавыскага РАУС.

СМ

## Апытанне на nn.by

**Як па-Вашаму, будаўніцтва АЭС можна было б спыніць, калі б народ выйшаў на пратэст?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 284 | 37% |
| Не | 131 | 17% |
| Калі б ды каб... | 170 | 22% |
| А я за будаўніцтва АЭС, бо самыя развітыя краіны свету таксама выкарыстоўваюць іх | 175 | 23% |

Усяго прагаласавала 760 чалавек.

## Самае чытанае на nn.by за 4 — 10 мая

1 Святлана Алексіевіч набыла апартаменты ў «доме Чыжа»

2 19-гадовы хлопец адкрыў у Мінску краму з рэчамі ў нацыянальным стылі

3 У якіх красоўках ходзяць tumblr-дзяўчаты гэтай вясной Фотападборка

4 Дзэн Перамогі: 20 кадраў пра тое, чаму 9 Мая ўжо не свята для ветэранаў вайны Фотарэпартаж Сяргея Гудзіліна

5 На кальяннай вечарынцы ў Віцебску забілі вядомага мастака і яго сяброўку

6 У Ганцавічах жорстка забілі маладога чалавека

7 Смелая шведка супраць маршу неанацыстаў Фотафакт

8 «Аляксандр Лукашэнка, а хто ж будзе дапамагаць Вам у касьбе, калі Юрый Чыж пад вартай?»

9 Названыя дзясяткі беларусаў, звязаныя з афшорамі з «Панамскіх дакументаў»

10 Жонка беларускага футбаліста: Змагла б падтрымаць Лукашэнку, надзеўшы футболку з яго выявай

# Савецкія сцягі, яблыневыя бутаньеркі, імперскія гімны: у Беларусі адзначылі Дзень Перамогі

Свята сёлета прайшло стрымана, без звыклай пампезнасці, але і не без эксцэсаў.

Парадаў па праспектах не было. У сталіцы галоўныя ўрачыстасці 9 Мая абмежаваліся плошчай Перамогі, куды сабралі — не могуць без адміністратыўнага рэсурсу — ветэранаў, «прадстаўнікоў працоўных калектываў», заводаў і адміністрацый.

Лукашэнка прыбыў да людзей у чорным лімузіне.

Удзельнікі афіцыйнай часткі святкавання ўсклалі вянкі да манумента Перамогі і выслухалі прэзідэнта.

У сёлетняй прамове Лукашэнка заявіў, што неацэнны ўнёсак у перамогу над нацызмам зрабіў менавіта беларускі народ.

З падазронасцю Беларусі глядзяць на георгіеўскую стужку, што за апошнія два гады стала сімвалам імперскіх амбіцый Расіі і якую крамлёўскія паліттэхнолагі імкнуцца зрабіць сімвалам Перамогі.



Тэхніка часоў вайны ля мінскай Ратушы і людзі ў ёй.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Жанчына фатаграфуецца з манекенамі, апранутымі ў форму байцоў Чырвонай Арміі.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Хлопчык з муляжом аўтамата прагульваецца на Нямізе.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Таму сёлета ўсё нашае чынавенства, бээрэсэмаўцы, супрацоўнікі крамаў і міліцыі выйшлі на святкаванне Дня Перамогі ў Мінску са стужкамі з яблыневым цветам. Са стужкай колераў дзяржаўнага сцяга быў і Аляксандр Лукашэнка.

Цвет яблыні — мірны сімвал, не агрэсіўны.

Гарадскія ўлады Бабруйска, напрыклад, увогуле не раілі выкарыстоўваць георгіеўскія стужкі і расійскія сцягі падчас традыцыйнага аўтапрабегу да Дня Перамогі.

Але так было не паўсюль — у Брэсце, напрыклад, георгіеўскія стужкі актыўна прадаваліся і распаўсюджваліся, асабліва актывістамі прарасійскіх арганізацый.

Яшчэ адным наватарствам святкавання стала акцыя «Несмяротны полк».

У гарадах Беларусі прайшлі дэманстрацыі, удзельнікі якіх неслі партрэты сваякоў, што бралі ўдзел у Другой сусветнай вайне ці загінулі на яе франтах. Удзельнікаў пераважна вызначалі ў працоўных калектывах і навучальных установах.



У Магілёве на парадзе да Дня Перамогі неслі гіганцкі савецкі сцяг.

«Несмяротны полк», дарэчы, таксама прыдумалі ў Расіі.

А вось у Магілёве, напрыклад, пранеслі па вуліцы вялізарны савецкі сцяг.

У Оршы ж увогуле ўрачыстае ўскладанне кветак праходзіла пад гукі расійскага імперскага гімну «Божа, цара храні».

Агульная ж карціна была такая: 9 Мая са свята ветэранаў ператвараецца ў народныя гулянні.

Скончылася ўсё надзвычай прыгожым салютам.

**Арцём Гарбацэвіч**

### Ад Рэдакцыі

Усякая шушара спрабуе выкарыстаць 9 Мая ва ўласных мэтах.

У тым ліку з дапамогай Дня Перамогі спрабуюць распальваць міжнацыянальную варожасць да народаў Еўропы. Спрабуюць апраўдаць дыктатуру. А расійская прапаганда з дапамогай і нашых мясцовых імха-бобікаў нават рыхтуе новыя перадзелы межаў Еўропы — тое, чым займаўся і Гітлер. Ім не страшныя рэкі крыві. Гісторыя іх нічому не навучыла.

У такіх умовах многім хочацца сказаць: «Гэта не наша свята».

Але ж: гэта нашы дзяды ваявалі. Яшчэ невядома, кім былі дзяды, скажам, тых ашалелых матацыклістаў з імперскімі стужкамі. А нашы прадзеды — мы кожны сваіх ведаем, колькі яны нацярпеліся і дзе палеглі.

Таму гэта наша свята і наша Перамога. Гэта была перамога беларусаў і рускіх, украінцаў і палякаў, амерыканцаў і яўрэяў. Нашых з вамі прадзедаў. І як яны праводзілі 9 Мая, мы таксама ведаем, і ці насілі якія стужкі.

У сваёй геніяльнай аповесці «Мёртвым не баліць» Васіль Быкаў апісаў такіх розных ветэранаў і такую розную памяць. Сам Быкаў, нагадаю, прайшоў усю вайну і цудам застаўся жывы. Успамінаюцца ў гэты дзень светлай памяці партызанскі камандзір Пятро Машэраў, партызаны Аляксей Карпюк, Янка Брыль і Валянцін Тарас, разведчык Фёдар Янкоўскі, артылерыст Іван Шамякін і мільёны такіх, як яны, успамінаюцца гандляркі і паэты, дактары і сяляне, што перажылі страшныя гады, ваюючы, сеючы хлеб або ратуючы людзей.

Нельга аддаваць Дзень Перамогі шушары. Гэта не значыць, што трэба браць удзел у фальшывых мерапрыемствах. Але гэта значыць, што сярод іншых еўрапейскіх сцягоў у гэты дзень па праве ўздымаецца і беларускі. Сярод іншых моў у гэты дзень павінна гучаць і беларуская, на якой гаварылі нашы пераможцы.



У Брэсце адсвяткавалі 9 Мая весела, з георгіеўскімі стужкамі і партрэтамі Сталіна.

СЯРГЕЙ ЗІНІН



СЯРГЕЙ ЗІНІН

# Дар'я Домрачава: «Я ніколі не выконвала палітычных заданняў КДБ»



Трохразовая алімпійская чэмпіёнка заявіла, што яе служба ў КДБ Беларусі ніколі не была звязана з палітычнымі заданнямі, а з'яўлялася крыніцай фінансавання спартыўнай кар'еры.

«Усе, хто знаёмы са спартовымі структурамі ў еўрапейскіх краінах, ведаюць, што многія элітныя спартсмены тым ці іншым чынам афармленыя на працу дзяржавай. Гэта можа быць невялікі даход або стыпендыя ад вайсковых або мытных ведамстваў, паліцыі або Міністэрства ўнутраных спраў. Так было і са мной у Беларусі. Гэтак жа, як у Нарвегіі існуе стыпендыя ад НАК Нарвегіі, я атрымлівала сваю стыпендыю ад Міністэрства ўнутраных спраў.

Гэта пачалося 8—10 гадоў таму, калі я была маладой спартсменкай і мела патрэбу ў сродках, каб займацца толькі спортам. Фінансаванне спынілася пасля Гульняў у Сочы. Я ніколі не выконвала якіх-небудзь палітычных заданняў КДБ, а толькі атрымлівала стыпендыю, каб мець магчымасць засяродзіцца на спартыўнай кар'еры», — напісала Домрачава ў электронным лісце выданню VG.

У дадзены момант біятланістка знаходзіцца ў Нарвегіі. Яна і нарвежац Уле Эйнар Б'ёрндален у пачатку кастрычніка чакаюць нараджэння першынца.

**sports.ru**

### Лукашэнка даручыў рыхтаваць больш IT-спецыялістаў: «Космас, АЭС, найноўшыя тэхналогіі — за імі будучыня»

Пры аптымізацыі прафтэхадукацыі важна больш цесна ўвязаць навучанне з вытворчасцю, заявіў Аляксандр Лукашэнка, наведваючы Мінскі маторны завод.

Што датычыць вышэйшай адукацыі, то цяпер усё больш запатрабаванымі становяцца спецыялісты ў новых кірунках. «IT-тэхналогіі, космас, АЭС, найноўшыя тэхналогіі — за імі будучыня. Адпаведна, для гэтых сфер мы будзем больш рыхтаваць спецыялістаў», — сказаў ён.

**СГ**

## У сябра Пуціна Ралдугіна знайшоўся яшчэ адзін афшор

У файлах «Панамскага архіва» змяшчаецца інфармацыя аб афшорных фірмах, якія належаць людзям з акружэння прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна.

Як інфармуе *Slon.ru*, пра гэта сведчаць дадзеныя, апублікаваныя Міжнародным кансорцыумам журналістаў-следчых (ICIJ).

У архіве ўтрымліваецца інфармацыя аб некалькіх кампаніях, зарэгістраваных на сябра расейскага лідара, віяланчэліста Сяргея Ралдугіна, у прыватнасці, *Raytar Limited* (Брытанскія Віргінскія выспы), пра якую раней не было вядома.



Таксама былі апублікаваныя дадзеныя аб зарэгістраваных на Брытанскіх Віргінскіх астравах фірмах, якія належаць бізнэсменам Ратэнбергам. За Барысам Ратэнбергам замацавана *Kenrick Overseas Ltd., Culloden Properties Limited* і *Highland Ventures Group Limited*. На імя Аркадзя Ратэнберга зарэгістраваныя кампаніі *Breckenridge Global Management Limited, Beechwood Associates Inc.* і *Causeway Consulting Limited*. Сыну Аркадзя Ратэнберга Ігару належыць фірма *Stormont Systems Limited*.

На імя кіраўніка дэпартамента транспарту Масквы Максіма Ліксутова, згодна з архівам, зарэгістравана фірма *Sermolent Equities Inc.* Юрысдыкцыя кампаніі не ўдакладняецца. Раней у дэпартаменце заяўлялі, што інфармацыя ў «Панамскім архіве» не адпавядае рэчаіснасці і намеснік мэра Масквы не з'яўляецца бенефіцыярам афшорных кампаній. Згодна з дэкларацыяй Ліксутова, за 2015 год ён зарабіў 65,9 мільёна рублёў.

У той жа час у базе дадзеных «Панамскага архіва» няма інфармацыі аб фірме фігурысткі Тацяны Наўка, жонкі прэс-сакратара Пуціна Дзмітрыя Пяскова. Раней са спасылкай на дакументы, апублікаваныя ICIJ, паведамлялася, што на спартсменку зарэгістраваная афшорная кампанія *Carina Global Assets Ltd.*, якая таксама знаходзіцца ў юрысдыкцыі Брытанскіх Віргінскіх выспаў. Пасля выхаду публікацыі Пяскоў раскрыў маёмасць жонкі ў дэкларацыі і абверг дадзеныя СМІ, адзначыўшы, што гэта ставіць пад сумнеў дакладнасць усёй інфармацыі ICIJ.

Сяргей Ралдугін сапраўды займаецца прадпрымальніцтвам, паведамляў Пуцін, але зарабляе невялікія грошы, на якія купляе музычныя інструменты для музычных устаноў Расіі. У Крамлі падкрэслівалі, што ўсе аперацыі фірмаў музыканта законныя, і заклікалі журналістаў паважаць яго прыватнае жыццё. Пазней СМІ прыйшлі да высновы, што кампанія Ралдугіна *International Media Overseas S.A.* атрымала сродкі за продаж акцый «Роснефці», прапажу якіх выявіў юрыст *Hermitage Capital* Сяргей Магніцкі.

Дакументы «Панамскага архіва» належаць панамскай юрыдычнай кампаніі *Mossack Fonseca*. Крыніца, якая раскрыла інфармацыю аб працы фірмы, раней заявіла, што хацела пакараць кампаніі, якія свядома парушаюць закон. У пачатку красавіка ў рамках расследаванняў, заснаваных на апублікаванай інфармацыі, журналісты распавялі аб кампаніях, якія належаць членам сем'яў сусветных лідараў.

### Прызначаны часовы кіраўнік індустрыяльнага парка «Вялікі камень»



Часовым кіраўніком індустрыяльнага парка «Вялікі камень» прызначаны намеснік міністра эканомікі Беларусі Аляксандр Ярашэнка.

Адпаведная пастанова Савета міністраў ад 5 мая №360 апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Аляксандр Ярашэнка змяніў на гэтай пасадзе Андрэя Галя, які быў вызвалены ад пасады 4 мая за грубае парушэнне працоўных абавязкаў (п.1 арт.47 Працоўнага кодэкса Беларусі).

Намеснік міністра эканомікі Аляксандр Ярашэнка з'яўляецца куратарам цэлага шэрагу беларуска-кітайскіх праектаў.

**БелТА**

## Пад Мінскам пачалі будаваць завод суперкандэнсатараў для электробусаў «Вітаўт»

На тэрыторыі Кітайска-беларускага індустрыяльнага парка «Вялікі камень» 8 мая адбылася ўрачыстая цырымонія пачатку будаўніцтва навукова-даследчага цэнтра і вытворчай базы па вырабе суперкандэнсатараў для электробусаў.

Праект рэалізуе ТАА «Чэнду Сіньджу Шаўковы Шлях Развіццё».

Суперкандэнсатары, выпрацаваныя на прадпрыемстве, будуць выкарыстоўвацца «Белкамунмашам» для электробусаў, тралейбусаў і трамваяў.

Праект будзе рэалізаваны на зямельным участку плошчай 1,1 га, дзе пабудуюць 20 тысяч квадратных метраў вытворчых плошчаў. Пасля выхаду прадпрыемства






на праектную магутнасць гадавы аб'ём яго прадукцыі павінен скласці 400—600 мільёнаў долараў.

Падчас цырымоніі быў прэзентаваны тралейбус *43303A VitovtMaxDuo*, на базе якога «Белкамунмаш» будзе выраблять электробусы.

Чакаецца, што два такія транспартныя сродкі з'явяцца ў сталіцы Беларусі ўжо ў снежні гэтага года.

**БелТА**

# Беларусы зарабляюць менш, чым у Грузіі і Арменіі

Але больш, чым у Кыргызстане і Азербайджане.

Пасля леташняга абвальнага падзення цэн на нафту параўноўваць заробак беларусаў з заходнімі суседзямі стала некарэктна — лічбы адрозніваюцца ў 3—4 разы не на карысць Беларусі.

Што ж, давядзецца зазірнуць да былых знаёмых па СССР. Якія грошы зарабляюць у постсацыялістычных краінах — ад Кыргызстана да Малдовы?

Нагадаем, у сакавіку заробак у Беларусі склаў $344 «брудным». Тут і надалей будзем указваць лічбы да сплаты падаткаў.

Самае багатае жыццё ў краінах Балтыі, якія зрабілі адназначны еўрапейскі выбар. Як яны ранжыруюцца між сабой?

Рэкардсмен — Эстонія. У чацвёртым квартале мінулага года тут зараблялі $1210.

Услед ідзе Латвія, дзе летась у снежні работнікам было налічана $979. А вось у Літве ў чацвёртым квартале мінулага года — $829.

Расія доўгія гады даганяла краіны Балтыі, але нафтавы крызіс істотна пагоршыў дабрабыт яе грамадзянаў. Цяпер у самай вялікай дзяржаве свету работнікі атрымліваюць $435. Гэта дадзеныя за люты.

Цяжка паверыць, але, паводле статыстыкі, маленькая Грузія амаль дагнала вялікую Расію! Паводле падлікаў мясцовых спецыялістаў, у чацвёртым квартале мінулага года заробак дарос да $422.

Пасля дэвальвацый казахстанскага тэнге сярэдні заробак апусціўся да $388. Гэта папярэднія падлікі за сакавік.

Раней паміж Казахстанам і Арменіяй была прорва па заробках, аднак па Арменіі нафтавы крызіс ударыў нямоцна, і курс мясцовай валюты амаль не змяніўся. У сакавіку заробак у гэтай краіне складаў $382.

А вось жыхары Азербайджана пацярпелі больш. У пачатку года сярэдні заробак складаў усяго $300, хоць раней нафтавыя грошы дазвалялі існаваць бязбедна.

Найгоршыя сярод еўрапейскай часткі былога СССР — Малдова і Украіна. Заробак у іх расце, але надзвычай павольна. У Малдове заробак складае $233 — гэта дадзеныя за люты.

Украінская эканоміка ўсё яшчэ не можа адысці ад расійскай агрэсіі на ўсходзе краіны. Сярэдні заробак у сакавіку складаў $186 (за выняткам акупаваных тэрыторый).

Дабрабыт у сярэднеазіяцкіх краінах яшчэ ніжэйшы. Статыстыка Кыргызстана паведамляе пра $174.

Афіцыйная статыстычная інфармацыя пра Узбекістан, Таджыкістан і Туркменістан не адпавядае рэчаіснасці праз існаванне чорных курсаў у краінах. Напрыклад, ва Узбекістане афіцыйны курс адрозніваецца ад рынкавага ў 2,2 раза. Падобная сітуацыя і ў суседніх краінах. Пры пераліку па рынкавым курсе сярэдні заробак у іх не перавышае $150.

**Ягор Марціновіч**




## Венесуэльскія бюджэтнікі будуць працаваць па два дні на тыдзень

Урад Венесуэлы прыняў рашэнне падоўжыць да канца мая рэжым скарочанага да двух дзён працоўнага тыдня для работнікаў бюджэтнай сферы.

У школах таксама ўведзены скарочаны навучальны тыдзень — з панядзелка па чацвер.

Улады пайшлі на скарачэнне працоўнага часу ў красавіку ў сувязі з энергетычным крызісам у краіне.

З-за працяглай засухі гідраэлектрастанцыі краіны не могуць працаваць на поўную магутнасць.

У выніку ў краіне пачаліся адключэнні электрычнасці, таму было прынята рашэнне перавесці гадзіннік на паўгадзіны наперад для эканоміі электраэнергіі.

Аналагічны энергетычны крызіс праз засуху здарыўся ў краіне ў 2010 годзе. Тады прэзідэнт Уга Чавес быў вымушаны ўвесці надзвычайнае становішча.

Апазіцыя абвінавачвае ўлады ў няўмелым кіраванні краінай і збірае подпісы за імпічмент прэзідэнта Нікаласа Мадуры.

**Фотафакт**

### У Мінску з'явіўся банкамат для кіроўцаў

«Беларусбанк» усталяваў першы ў Беларусі кругласутачны банкамат для кіроўцаў на запраўцы побач з аўтавакзалам «Усходні». Здымаць грошы ці рабіць плацяжы з дапамогай карткі, не пакідаючы аўтамабіль, можна кругласутачна. Для зручнасці карыстання экран банкамата нахіляецца.



## Дзясяткі беларусаў звязаныя з афшорамі з «Панамскіх дакументаў»

Міжнародны кансорцыум журналістаў-расследвальнікаў апублікаваў базу «Панамскіх дакументаў», у якой прадстаўлена інфармацыя пра ўласнікаў афшорных кампаній з розных краін свету.

Паводле базы дадзеных, з Беларуссю звязаныя 35 кампаній, 98 асобаў і 87 адрасоў.

Што гэта за афшоры? Большасць указаных кампаній былі зарэгістраваныя на Брытанскіх Віргінскіх астравах. Інфармацыя пра некаторыя з іх ужо публікавалася ў інтэрнэце. Непасрэдна «панамскіх» — адзінкі.

Сістэма паказвае звесткі пра 98 беларусаў, аднак у рэальнасці лічба меншая — некаторыя імёны дублююцца, некаторыя не маюць дачынення да Беларусі.

«Знакавых» прозвішчаў у спісе ўласнікаў афшораў няма, аднак сустракаюцца імёны з рэйтынгу топ-200 самых паспяховых бізнэсоўцаў краіны.

Напрыклад, гэта Ігар Чорны (№103) і Валерый Башманаў (№118).

Апроч таго, імя і прозвішча «Larysa Vasilko» цалкам супадае са старшынёй назіральнай рады «Еўрагандальінвестбанка» Ларысай Васілька. Адзін з уласнікаў «Еўрагандля» (сетка «Еўраопт») — Уладзімір Васілька (№8).

**Лукашэнка, ды не той**

У базе дадзеных «Панамскіх дакументаў» знайшоўся поўны цёзка кіраўніка Беларусі. Грамадзянін Расіі Alexander Lukashenko, зарэгістраваны ў горадзе Каралёў Маскоўскай вобласці, узначальвае кампанію Avonlea Industry Corp. з Брытанскіх Віргінскіх астравоў.

Рэдкае прозвішча «Asia Zubarik» звязанае з газавай кампаніяй *Polish Gas Company Limited*. Тым часам бізнэсмен Артур Зубарык (№33) якраз займаецца продажам газу на Захад.

**ЯМ**

## Сціісла

### Беларусі патрэбныя рэзервы каля $10 мільярдаў

Такое меркаванне выказаў старшыня праўлення Нацбанка Павел Калаўр. «Не значыць, што пры ніжэйшым узроўні мы не забяспечым стабільнасць, але гэта б дазволіла пазычаць па меншых стаўках», — патлумачыў ён. Па стане на 1 мая золатавалютныя рэзервы Беларусі склалі $4,2 мільярда. Іх павелічэнню спрыяла атрыманне першага траншу еўразійскага крэдыту.

### «Еўраопт» згортвае дастаўку прадуктаў

Гандлёвая сетка закрыла сэрвіс дастаўкі прадуктаў, замоўленых праз інтэрнэт, у Магілёве, Віцебску і Брэсце. Прыпыняе працу і «ГіперМол» — дастаўка не толькі прадуктаў, але і нехарчовых тавараў па ўсёй краіне.

### Улады гатовыя прадаць пакет акцый «Беларусбанка»

Гаворка ідзе пра мінарытарны пакет (менш за 25%). Выбар купца будзе няхуткім — прапанова павінна быць унесеная ва ўрад да 1 лістапада 2017 года.

### Беларусы здалі $232 мільёны

У красавіку розніца паміж набытай і здадзенай валютай склала $232 мільёны. Здавалі даляры з еўра ў тых жа аб'ёмах, як і раней, а вось куплялі нашмат менш. Гэта тлумачыцца падзеннем даходаў насельніцтва.

### Запасы нафты ў ЗША перавысяць гістарычны рэкорд

Запасы сырой нафты ў ЗША павялічацца ў маі да 550 мільёнаў тон. Такім чынам, яны перавысяць гістарычны рэкорд, зафіксаваны ў кастрычніку 1929 года. Гэтыя дадзеныя аказваюць значны ўплыў на рынак, бо ЗША з'яўляюцца найбуйнейшым сусветным імпарцёрам энергарэсурсаў. У пачатку красавіка каціроўкі падскочылі на 4%, калі высветлілася, што амерыканскія запасы паменшалі, тады як чакаўся іх рост.

### Літоўцы патрабуюць з беларускай сеткі Mart Inn 313 мільёнаў еўра

Акцыянеры найбуйнейшай балтыйскай рознічнай сеткі *Maxima* не пакідаюць спробаў «пакараць» беларускую сетку *Mart Inn*, якая, на іх думку, «скрала» бізнэс-канцэпцыю *Maxima* і перашкодзіла яе выхаду на рынак Беларусі. Беларускую сетку стварыла літоўская сям'я Марцінкявічусаў. Яны валодалі невялікай доляй *Maxima*.

**ЯМ**

# Святлана Алексіевіч набыла апартаменты ў «доме Чыжа»

У інтэрв'ю расійскаму парталу «Тут і там» першая беларуская нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч прызналася, што надоечы набыла дом у Лагойскім раёне і новую кватэру ў Мінску. «Зараз там рамонт робяць да канца», — удакладніла яна.

Як выявілася, Святлана Алексіевіч набыла сабе кватэру ў жыллёвым комплексе «Ля Траецкага», так званым «доме Чыжа». Раней пісьменніца жыла літаральна ў суседнім будынку на той жа вуліцы Старажоўскай. Там у яе была двухпакаёўка.

Што за кватэру прыгледзела сабе Алексіевіч? Пісьменніца стала гаспадыняй трохпакаёвых апартаментаў плошчай каля 125 м². Для «дома Чыжа» гэта невялікае жыллё — плошча кватэр вар'іруецца ад 55 да 500 «квадратаў».

Кватэра куплялася ў красавіку 2016 года, на той момант на ўсе памяшканні, якія «Трайпл» не паспеў распрадаць, Камітэтам дзяржаўнай бяспекі быў накладзены арышт.

Таму Алексіевіч купляла кватэру на другасным рынку жылля. Як стала вядома «Нашай Ніве», яе ранейшым гаспадаром быў Алег Гушча, былы прэзідэнт футбольнага клуба «Белшына».

Хто быў ініцыятарам угоды? «Напэўна, задавайце ўсе пытанні Святлане Алексіевіч, гэта будзе правільна, — засмяяўся Алег Гушча. — Ні я яе не шукаў, ні яна мяне. Для гэтага ёсць адпаведныя службы і людзі, якія займаюцца падборам кватэр для ахвотных».

Казаць пра асаблівасці планіровак у «доме Чыжа» не выпадае. Звычайна гэта вялікая пустая прастора з двума санвузламі і двума балконамі. Аздаблення таксама няма, гаспадар прыдумляе дызайн сам.

Паводле дадзеных Рэестра цана на нерухомасць, кошт угоды склаў 6,46 мільярда рублёў. Па афіцыйным курсе Нацбанка на той дзень гэта было роўна $325 тысяч.

**Ягор Марціновіч**




«Я разумею, што ў краіне іншых пытанняў няма, акрамя таго, у якой кватэры жыве Алексіевіч, — з іроніяй пракаментавала сітуацыю сама пісьменніца. — Але краіна гэта абмяркоўвае, і я з цікавасцю паглядзела і падумала: «Божа мой, вось агляд масавай свядомасці. Мне нават не трэба хадзіць і распытваць, усё відаць».

# Краіна абмяркоўвае

**Навіна пра кватэру Святланы Алексіевіч, апублікаваная на сайце «Нашай Нівы», імгненна разляцелася па іншых інфармацыйных рэсурсах і сацыяльных сетках. Меркаванні наконт выбару нобелеўскай лаўрэаткай месца жылля падзяліліся.**

### Зазіранне ў чыжыя кашалькі характэрна для «чырвонага чалавека»

Святлана робіць шмат добрых спраў, у тым ліку дабрачынных. На жаль, СМІ аддаюць перавагу пісаць аб тым, што выклікае больш грамадскі рэзананс у натоўпу. Выходзіць прапаганда, на гэты раз не дзяржаўная, якая і спраўкакавала плынь нянавісці сотняў людзей на форумах і ў сацсетках, якія асудзілі Святлану за куплю кватэры замест таго, каб падарыць дзіцячаму дому. Не пазбыўная зайздрасць нашых грамадзян да забяспечаных людзей, а таксама нянавісць да ўнутранай свабоды лаўрэата Нобелеўскай прэміі, якая напляваla на ўсе прымхі.

Дарэчы, «дом Чыжа» — метафара, бо Чыжу ў ім належыць (з некаторай верагоднасцю цяпер ужо «належала») усяго 20 кватэр. Там мноства пайшчыкаў. Адзін з іх і прадаў Святлане гэтую кватэру, пра што і даў інтэрв'ю. А калі пры куплі кватэры ўсур'ёз улічваць тое, што дом пабудаваны «памагатым рэжыму», то тады ўсім гараджанам трэба тэрмінова выселіцца са сваіх кватэр: усе яны пабудаваны «памагатымі рэжыму» — і ў старых дамах, і ў новых. Зайздрасць, зазіранне ў чужыя кашалькі і абмеркаванне рэчаў з асабістага жыцця, якія не маюць асабістага да цябе ніякага дачынення, выдатна характарызуюць «чырвонага чалавека», пра якога Святлана пісала ўсё жыццё. На жаль, яе раманы вельмі актуальныя для беларусаў.

**Юрый Зісер,**
**заснавальнік Tut.by**

### Ідэалізаваць людзей — саўковы менталітэт

Нават не верыцца. У чарговы раз думаю, наколькі людзі негарманічныя, яны ў адной вобласці профі-профі, а ў астатніх калхазаны-калхазаны.

У прынцыпе, што гіпер на Курапатах, што гэты дом у цэнтры — розніцы няма.

...Дом Чыжа кепскі тым, што замацаваў знішчэнне гістарычнага цэнтра Мінска. Пасля яго будаўніцтва стала дазволена ЎСЁ — любыя шматпавярховыя валізы любога памеру і выгляду проста ў цэнтры горада замест гістарычнага цэнтра. Так, гэта сімвал разбурэння, і не Траецкага, а ўсяго цэнтра, бо з нашым рэльефам адзін будынак уплывае на ўсё цалкам.

Не абавязкова будаваць новае замест старога, выбар у мінчукоў быў і ёсць. Узгадайце, як у Вільні паставілі шматпавярховыя дамы, усе гэтыя гіганцкія валізы з моднымі фасадамі — іх не бачна, калі шпацыруеце па гістарычным цэнтры. Упэўнена, вы самі бачылі шмат прыкладаў новай архітэктуры, якая не знішчае гістарычнай і стаіць побач.

Чыж тут зусім ні пры чым, усё роўна, хто пабудаваў гэты дом і хто яго ўладальнікі. Вымаўляць і пісаць «жылы комплекс «Ля Траецкага» доўга, таму не прыжылося.

Убачыць у дадзеным пытанні пакупкі кватэры зайздрасць могуць толькі людзі, неабцяжараныя элементарнымі ведамі па архітэктуры, ці тыя, каго пляжанне Мінска задавальняе. Патрэбнае падкрэсліць.

І так, сярод людзей, якіх задавальняе знішчэнне Мінска, шмат таленавітых, добрых і працавітых людзей. Наяўнасць іх не даказвае, што так Мінску і трэба, хай згіне.

Ідэалізаваць людзей — саўковы менталітэт. Геніяльныя фізікі могуць быць невыносныймі дома, знакамітыя кухары могуць не мець густу ў адзенні, вялікія дабрачынцы могуць не разбірацца ў гісторыі і культуры. Сумна толькі, калі фізік не разбіраецца ў пытанні, якое тычыцца фізікі і г.д.

**Аляксандра Баярына,**
**архітэктар**

### Не шукайце сабе пастыра

Справа не ў тым, што нехта (нехта) на свае (свае) купіў сабе кватэру. Справа ў тым, што чалавек, які перыядычна ўзгадвае беларусаў як маленькі народ з рабскай ментальнасцю, купіў кватэру ў доме, які ненавідзіць кожны, хто ўсведамляе наяўнасць рабскай ментальнасці як з'явы і спрабуе неяк гэтую рабскую ментальнасць перамагчы. То бок, з аднаго боку, чалавек на сумленна заробленыя купіў сабе жытло ў цэнтры Мінска. Таму гэты акт трэба выносіць за рамкі абмеркавання. Гэта добра і слушна. Але вось чалавек купіў частку рукатворнага пачварства, сімвал калгаса і напляывальніцкага стаўлення ўладаў да эстэтыкі, да гісторыі, да прасторы і да людзей. Гэтая частка ўжо не такая прыемная. Але, зноў жа, справа гаспадарская. Праўда, чалавек расказвае нам пра нашую рабскую ментальнасць, забітасць, убоства і канфармізм. Пра чырвонага чалавека і вось усё вось гэта. Але тут справа такая. Мы ўвесь час хочам убачыць перад сабой гуру, цара, правадыра, які нас павядзе і пакажа асабістым прыкладам, як трэба. Дасць узор маральнасці і беззаганнасці. А ў нябеснай канцылярыі нам раз за разам паказваюць: вам не патрэбны правадыр, не спрабуйце разглядзець у блізкім чалавеку Ісуса. Ён, блізкі, не браў на сябе такіх абавязкаў. Таленавітая пісьменніца можа быць не вельмі разумным чалавекам, ці не мець густу, ці сітуацыйна памыліцца, ці паддацца спакусе бачыць за акном найлепшы ў горадзе краявід. Сто прычын можна прыдумаць. Вельмі чалавечых. Усе іх можна зразумець і не абавязкова любіць. Проста гэтая асобна ўзятая кватэра знак. Адзін з тысячы, які варта ўмець убачыць. Не шукайце сабе пастыра: іх няма і не трэба.

**Стась Карпаў**

### Алексіевіч нікому не ўдасца выкарыстоўваць

Не прэтэндую на блізкае сяброўства з пісьменніцай і чужы канспіралогіі, але не выключаю, што купля жылплошчы менавіта ў «доме Чыжа» была яе рашэннем, прынятым з улікам у тым ліку і даміноўных у пэўных колах меркаванняў наконт агідна сімвалічнага значэння гэтага будынка. Дакладней, было рашэннем, якое гэтыя меркаванні дэманстратыўна ігнаравала. Маю гіпотэзу пацвярджае інтэрв'ю пісьменніцы нямецкай газеце, у якім яна сказала, як і раней казала, некаторыя непрыемныя для беларусаў, гэта значыць для нас усіх і для сябе ў тым ліку, рэчы. На інтэрв'ю аператыўна адрэагаваў пільны Зянон Пазняк, як звычайна адлучыўшы Алексіевіч ад Беларусі.

А хіба да Нобеля яна была іншай? Такой жа і была — з характарам. Гнула сваю лінію. Так і цяпер дэманструе, што не будзе закладніцай нічыіх патрабавальных чаканняў. Класікі — яны такія.

Дарэчы, варта заўважыць, што беларуская ўлада адрэагавала на новы статус пісьменніцы па-свойму лагічна і без надрыву, уласцівага ўдзельнікам халівару. Улада зразумела, што кашы з нобелісткай ёй не зварыць, фармальна павіншавала, раздражнёна буркнула з нагоды порцыі рэзкіх словаў на свой адрас, але ніякіх «мы так вам верылі, таварыш Алексіевіч» ад улады не прагучала. Контра і контра, варажына і варажына, але цяпер такая, з якой лепш публічна моцна не сварыцца. І ў гэтым сэнсе ўладзе нельга адмовіць у кемлівасці, у адрозненне ад халіварных «крыжакоў».

Алексіевіч нікому не ўдасца выкарыстоўваць. Улада гэта зразумела адразу, варта зразумець і ўсім астатнім.

І неафітам, якія пачалі яе шанаваць пасля прэміі, і сталым прыхільнікам. Яно зразумела: Нобель палітычна, ідэалагічна духоўна — зброя масавага знішчэння. Але яна — толькі ў яе руках.

І тым, хто аддае яе анафеме за куплю кватэры, не варта так моцна засмучацца і перажываць: заўтра яна абавязкова скажа што-небудзь, што ім вельмі спадабаецца. А паслязаўтра — што моцна не спадабаецца. Дык лепш не апынацца ў смешнай ролі героя вядомага анекдота, які па тэлефоне кіруе пераборкай бульбы: «Кепская Алексіевіч, добрая Алексіевіч».

**Юрый Дракахруст**

**Хто суседзі?**

Хто з вядомых асобаў жыве ў «доме Чыжа»? Напрыклад, спартоўцы Дар'я Домрачава, Ала Цупер, Антон Кушнір і Ксенія Санковіч.

Таксама нерухомасць зарэгістраваная на членаў сем'яў бізнэсменаў Уладзіміра Япрынцава, Юрыя Авяр'янава, Аляксея Алексіна, Анатоля Сцяцкевіча-Чабаганава.

# Прафесар Акадэміі МУС: Неабходна прыняць дзяржаўную праграму падтрымкі беларускай мовы

У Беларусі наспеў час прыняць дзяржаўную праграму падтрымкі беларускай мовы, заявіла прафесар кафедры беларускай і замежных моў Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Валянціна Мароз, выступаючы на I Міжнародным навуковым кангрэсе беларускай культуры ў Нацыянальнай акадэміі навук.

«За сваю гісторыю беларуская мова прайшла шлях ад гаворак крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў праз перыяды мовы народнасцяў у Вялікім Княстве Літоўскім і нацыянальнага адраджэння ў XIX—XX стагоддзях, дасягнуўшы найвышэйшай ступені свайго развіцця — нацыянальнай мовы», — нагадала яна. Мароз падкрэсліла, што сёння «ва ўсіх сферах, у тым ліку ў сілавых структурах, беларуская мова разглядаецца як фактар абароны і забеспячэння нацыянальнага суверэнітэту».

Ад пачатку 1990-х у дзяржаве рабіліся розныя захады па рэгуляванні моўнага пытання, пачынаючы ад абвяшчэння беларускай мовы адзінай дзяржаўнай, да рэферэндуму, які надаў рускай мове роўны статус з беларускай, і шэрагу паправак у моўнае заканадаўства.

«Відавочна, што назапашаныя праблемныя пытанні ў практыцы выкарыстання дзвюх моў за апошнія 20 гадоў не могуць быць вычарпаныя асобнымі, нават істотнымі, папраўкамі ў заканадаўстве, — адзначыла Мароз. — Прававое рэгуляванне і ўнясенне паправак у заканадаўчыя дакументы павінны быць падмацаваны адпаведнай дзяржаўнай праграмай падтрымкі беларускай нацыянальнай дзяржаўнай мовы».

Прафесар Акадэміі МУС нагадала, што адразу пасля прыняцця ў 1990 годзе Закона «Аб мовах у Беларускай ССР», які вызначыў беларускую адзінай дзяржаўнай мовай, была прынятая дзяржпраграма, якая рэгулявала паэтапны пераход усіх сфер, пачынаючы з адукацыйнай, на беларускую мову. «Для кожнай сферы там пазначаўся пэўны тэрмін: на справаводства адводзіліся тры гады, на дашкольнае навучанне і сферу адміністрацыі — пяць гадоў, на адукацыйную сістэму — дзесяць гадоў. Мы добра помнім, што гэты працэс пераходу ўсіх сфер дзяржаўнага рэгулявання сапраўды быў рэальным», — зазначыла яна.

«Сёння мы таксама на тым этапе, калі патрэбныя рэальныя меры, якія б маглі прывесці да пэўнай роўніцы сістэму двухмоўя ў законе і Канстытуцыі, каб кожны ведаў, як і дзе ён не проста мае права, але і павінен карыстацца беларускай мовай. У гэтай сітуацыі асаблівую ўвагу трэба надаваць сістэме адукацыі, бо выхаванне і навучанне беларусаў мусіць даваць магчымасць сапраўды засвойваць усю сістэму нацыянальных каштоўнасцей, гістарычную памяць на нацыянальнай мове. А ва ўмовах двухмоўя гэта можна зрабіць толькі з дапамогай адпаведнай дзяржпраграмы», — дадала Мароз.



Паводле яе слоў, такая дзяржпраграма мусіць замацаваць, што ў кожнай навучальнай установе «павінна быць вызначана кола прадметаў — не меней за 50% гуманітарных і спецыяльных дысцыплін, — якія б чыталіся пабеларуску», — сказала Валянціна Мароз.

**Захар Шчарбакоў, БелаПАН**

## Былы віцэ-прэм'ер Тозік расказаў, як будаваў катэдж у Драздах



**— Быўшы віцэ-прэм'ерам, вы пабудавалі асабняк у Драздах. Калі не сакрэт, у якую суму ён вам абышоўся? Бралі крэдыт або хапіла ўласных зберажэнняў?**

— Такіх «царскіх сёлаў» сёння ў краіне сотні, калі не тысячы. Праўда, вы чамусьці бачыце толькі наш пасёлак... Гэта ж добра, што людзі ўладкоўваюць сваю зямлю, а не чужую, купляючы там яхты і футбольныя каманды.

Мой дом быў пабудаваны яшчэ да майго віцэ-прэм'ерства. Мы з жонкай будавалі яго для сябе, і ў ім усё вельмі рацыянальна, без празмернасцяў.

Можа, вядома, гэта і нясціпла прагучыць, але... Усё сваё жыццё я прысвяціў служэнню сваёй краіне, спачатку СССР, а апошнюю чвэрць стагоддзя — Беларусі. І што, у 66 гадоў я павінен быў ганарыцца тым, што жыву ў аднапакаёвай кватэры? Я не разумею тых, хто, пражыўшы жыццё, ганарыцца, што нічога не мае. На мой погляд, гэтым нельга ганарыцца. Таму што, калі чалавек не ў сілах стварыць нармальныя ўмовы для сваёй сям'і, на што ён наогул здольны? Такі чалавек і для дзяржавы нічога вартага зрабіць не зможа.

Хіба гэта дрэнна, калі чалавек стараецца нешта зрабіць для сваёй сям'і, не пераступіўшы закон? Гэта ж у мяне цяпер з'явіліся выходныя. А раней многія дзесяцігоддзі субота, а часта і нядзеля для мяне былі працоўнымі днямі. І апошнія 20 з лішнім гадоў я ніколі не прыходзіў на працу пазней за сваіх падначаленых і ніколі раней за іх не сыходзіў. Дык чаму я павінен ганарыцца тым, што ў мяне нічога няма?

Я не хаваю, што на будаўніцтва дома браў крэдыт. Мы прадалі кватэру, якую дзеці пабудавалі, а ім аддалі тую, у якой раней самі жылі. Мая мама пайшла з жыцця, і мы прадалі кватэру, у якой яна жыла. І потым, будучы паслом, я атрымліваў вельмі добры заробак. Цяпер мы за ўсё разлічыліся і, як кажуць, спім спакойна.

**Марына Коктыш, «Народная Воля»**

## Мінэнерга: На Астравецкай АЭС абвалілася апалубка падсобкі

У Міністэрстве энергетыкі Беларусі паведамілі, што пры будаўніцтве БелАЭС у Астраўцы адбылося частковае пашкоджанне апорных канструкцый апалубкі аднаго з падсобных памяшканняў, а не «апорнай канструкцыі будучага будынка кантролю ядзернай бяспекі». Пра гэта гаворыцца ў заяве ведамства.

У Мінэнерга зазначылі, што ў размешчанай на сайце *belsat.eu* інфармацыі, верагодна, ідзе гаворка аб выпадку, што адбыўся 8 красавіка 2016 года, калі пры ўкладцы бетону аднаго з перакрыццяў бытавых і падсобных памяшканняў адбылося частковае пашкоджанне апорных канструкцый апалубкі.

«Дадзены выпадак разглядаецца як дэфект пры падрыхтоўчых працах, наступствы якога былі ліквідаваны ў поўнай адпаведнасці з дзейнымі пры будаўніцтве рэгламентамі і тэхналогіяй. Дэфект быў ліквідаваны, блок перакрыцця падрыхтаваны да бетанавання і здадзены камісіі ў адпаведнасці з тэхнічнымі патрабаваннямі», — адзначылі ў ведамстве.

У гэтай сувязі ў Мінэнерга асабліва падкрэслілі, што «пашкоджанняў і разбурэнняў канструктываў, прынятых заказчыкам, на аб'ектах Беларускай АЭС за ўвесь час будаўніцтва не было».

У Мінэнерга таксама адзначылі, што для забеспячэння якасці будаўніча-мантажных работ на Беларускай АЭС пастаянна ажыццяўляецца будаўнічы кантроль, а таксама пастаянна вядзецца дзяржаўны нагляд з боку наглядных органаў — Дзяржбуднагляду Дзяржстандарту і Дзяржатамнагляду МНС.

Нагадаем, 5 мая Міністэрства замежных спраў Літвы выклікала пасла Беларусі і ўручыла яму ноту датычна магчымага інцыдэнту на размешчанай за 50 км ад Вільні Астравецкай атамнай электрастанцыі. Падставай для гэтага стала інфармацыя тэлеканала «Белсат». У матэрыяле тэлеканала паведамлялася, што рабочы з атамнай станцыі ў Астраўцы паведаміў пра абвальванне бетоннай канструкцыі ў сярэдзіне красавіка «на пляцоўцы паміж двума рэактарамі». Прадстаўнікі БелАЭС назвалі гэта паведамленне «поўнай лухтой».

## «Калі вы такі разумны, то чаму ўсё яшчэ блогер?»

Феерычная перапіска Антона Матолькі з Памежным камітэтам.









Фатограф і блогер Антон Матолька на сваёй старонцы ў «Жывым Журнале» апісаў сітуацыю, у якой аказаўся грамадзянін Германіі пры выездзе з Беларусі.

Паскаля (так завуць немца) высадзілі з цягніка на беларускалітоўскай мяжы. Сітуацыя ўскладнялася тым, што замежнік не ведае ні рускай, ні беларускай, а супрацоўнікі Памежнага камітэта не маглі нічога растлумачыць хлопцу на англійскай. Знаёмая Паскаля змагла дазваніцца на мяжу, калі яго пратрымалі там больш за 4 гадзіны. Ёй патлумачылі, што немец не зарэгістраваўся, калі прыехаў у Беларусь, таму на яго складаецца пратакол. «Не ўпэўнены, што пасля гэтага яму яшчэ раз захочацца прыехаць у Беларусь», — піша сяброўка немца Лія Каломенцава.

Антон Матолька ў твітары звярнуўся да прадстаўніка Памежнага камітэта, каб ён пракаментаваў інцыдэнт. «Не варта хвалявацца, знойдуць яму перакладчыка і вызваляць. Калі грамадзянін парушыў правілы знаходжання, то аштрафуюць, і ўсё», — напісаў афіцыйны твітар Памежнага камітэта.

Далей — болей. «Усё вакол сарцір, а вы ціпа дэзік?» — напісалі Матольку ад імя Памежнага камітэта. Праз нейкі час прыйшло тлумачэнне: «Прычым «дэзік» — гэта не дэзадарант, а маленькі распаўсюднік дэзынфармацыі ў нэце», — адказалі Матольку. Ну і вырашальным ударам па Антону Матольку быў наступны твіт ад імя Памежнага камітэта: «Калі вы такі разумны, то чаму ўсё яшчэ блогер? Ці вас не заўважаюць на асноўным месцы працы?»

Ці могуць сацыяльныя сеткі дзяржаўных органаў весці дыялог у падобнай манеры?

**ЗП**

## У Маладзечне людзі адбілі ў міліцыі затрыманую за вулічны гандаль жанчыну

Інцыдэнт адбыўся 6 мая на Вялікім гасцінцы — цэнтральнай вуліцы Маладзечна. Супрацоўнік міліцыі затрымаў жанчыну, якая гандлявала на вуліцы прадуктамі, і надзеў на яе кайданкі. Апошняе асабліва абурыла мінакоў. За кароткі час каля міліцыянта і затрыманай сабралася пару дзясяткаў чалавек, пачалі здымаць на мабільнікі. Падышлі і некалькі супрацоўнікаў міліцыі. Суседзі казалі, што жанчына гандлюе ад безвыходнасці: «Адна, без мужа, дзіця трэба расціць». Таксама яны бэсцілі маладых міліцыянтаў, якія закавалі ў кайданкі кабету, маці ім па веку. Урэшце міліцыя вымушаная была адпусціць гандлярку.

**СМ**

# Здаваць ЦТ па чатырох прадметах і выбіраць з іх тры найлепшыя можна будзе з 2017 года

Абітурыенты пры паступленні ў ВНУ змогуць здаваць ЦТ па чатырох прадметах з 2017 года. Гэтую прапанову падтрымаў Аляксандр Лукашэнка на нарадзе па пытаннях карэкціроўкі правіл прыёму ва ўстановы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

Пры гэтым пры паступленні ў ВНУ неабходна будзе прад'яўляць вынікі трох тэставанняў. Што датычыцца абітурыентаў ССНУ, то яны атрымаюць магчымасць здаваць тры ЦТ і прад'яўляць вынікі двух тэставанняў.

Як адзначыў у размове з журналістамі міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў, адобраная навацыя аблегчыць выбар абітурыентаў паміж блізкімі спецыяльнасцямі, пры паступленні на якія трэба здаваць розныя прадметы ў якасці другіх профільных. «Гэта дае магчымасць абітурыенту здаць чатыры ЦТ, а потым выбраць менавіта тыя тры прадметы па кірунку, на які ён усё ж вырашыць падаваць дакументы», — растлумачыў ён, узяўшы за прыклад паступленне ў ВНУ.




Акрамя таго, кіраўнік дзяржавы падтрымаў прапанову аб тым, каб сертыфікат ЦТ дзейнічаў на працягу двух гадоў, а таксама аб павелічэнні колькасці рэзервовых дзён ЦТ да трох.

Па выніках нарады кіраўнік краіны ўхваліў шэраг прапаноў па карэкціроўцы правіл прыёму ў ВНУ і ССНУ. Чакаецца, што ўсе прапанаваныя навацыі ўступяць у сілу з 2017 года. Сёлетняя абітурыенцкая кампанія пройдзе па дзейных правілах.

**БелТА**



**Фотафакт**

**У Мінску дабудавалі Саборную мячэць.**

# У Мінску з'явіцца алея сакуры

150 дрэўцаў пасадзяць у парку Дружбы народаў 12 мая.

Закладка алеі прымеркаваная да 30-годдзя аварыі на Чарнобыльскай АЭС і 5-годдзя аварыі на атамнай электрастанцыі «Фукусіма-1».

Дрэўцы дорыць кампанія «JT» і Парк высокіх тэхналогій.

Вішня сакура лічыцца адным з галоўных сімвалаў Японіі і заўсёды займала асаблівае месца ва ўспрыманні японцамі прыроды і навакольнага свету. Спрадвеку японцы ўвесну адкладаюць усе справы, каб палюбавацца, як цвіце вішня.



**На сэрцы**

# «Народам Европы свободу принёс жаркий солнечный май…»

Піша **Алесь Пашкевіч.**



Гэтыя словы з папулярнай песні савецкага часу сталі ў свядомасці большасці нашых суграмадзян аксіёмай. Маўляў, перамаглі нацызм, а што можа быць горшым за яго? Хіба ж можна нават у думках параўноўваць камуністаў з нацыстамі? Хіба не ўздыхнулася людзям вальней пасля таго, як вайна нарэшце скончылася і пачалося «мірнае будаўніцтва»?

Дык вось жа якраз і не факт, што людзям, вызваленым з-пад гітлераўскага ярма і патрапіўшым пад ярмо сталінскае, стала вальней дыхаць і лягчэй жыць. Прыгадайма, напрыклад, фрагмент з рамана Ніла Гілевіча «Родныя дзеці», дзе галоўны герой над магілай старэйшай сястры ўспамінае, як калісьці разам з маці праводзіў яе за сяло, выпраўляючы на «хлеб не ад зямлі»:

«Пайшла — каб дома гурт паменшаў
Хоць на адзін галодны рот.
Быў недаяду час. Быў першы
Пасляваенны, мірны год.

Яшчэ ў дварэ іх — пуста й гола.
Зямлянка ў плеснях. Рызманы.
І — голад, голад, люты голад —
Як самы страшны след вайны.

Той год ва ўдовае Анэлі,
Суседкі іхняй, дзве дачкі —
Блізняткі — спухлі, пасінелі
І згаслі ўраз, як светлячкі».

Твор напісаны яшчэ да перабудовы, і паэт, натуральна, не мог тады наўпрост сказаць, што калі зямлянкі і рызманы яшчэ можна ўспрымаць як след вайны, то люты голад — непасрэднае наступства ўжо пасляваеннай рэчаіснасці. Салдаты Савецкай Арміі не толькі прагналі немцаў — на іх штыках (хоць, як правіла, без уласнага на тое жадання) у жыццё насельніцтва вярнулася (а на не акупаваных немцамі тэрыторыях СССР, дарэчы, і не спынялася) і ўведзенае яшчэ да вайны прыгоннае права ў выглядзе калгаснай сістэмы сталінскага тыпу. Характэрнай рысай якой была поўная абыякавасць не толькі да чалавечай годнасці, але і да фізіялагічных патрэб рабоў XX стагоддзя.



**Фота часоў вайны.**

Сапраўднае пекла на зямлі працягвалася для нашых продкаў аж да смерці таго нелюдзя, якому за перамогу ў той вайне многія сёння гатовыя калі не ўсё дараваць, то, прынамсі, расцэньваць як неадназначную асобу, якая, маўляў, зрабіла шмат чаго нядобрага, але ж «прыняла краіну з сахой, а пакінула — з атамнай бомбай». А я вось не гатовы. І таму, не адмаўляючы безумоўнай пазітыўнасці перамогі над нямецкім нацызмам, не прымаю афіцыйнай канцэпцыі «Вялікай Айчыннай вайны», асновы якой былі ў свой час закладзеныя дзеячамі, цалкам дастойнымі, як і правадыры нацыстаў, сядзець на лаве падсудных міжнароднага трыбунала за злачынствы супраць чалавечнасці. На жаль, суд над сталінізмам сёння ўжо магчымы толькі сімвалічны, бо ўсе ацалелыя злачынцы мелі дастаткова часу, каб паўміраць натуральнай смерцю. Але ідэалагічная спадчына жывая і дагэтуль. І выкараняць яе не так проста. Аднак трэба.

# На бруклінскі пляж вынесла цела бандыта з «цэментнымі чаравікамі»

У Манхэтэн-Біч у нью-ёркскім раёне Бруклін акіян выкінуў на бераг цела мужчыны, у якога на нагах было вядро з цэментам.

Труп 28-гадовага Пітэра Марцінэса знайшоў на гэтым тыдні мінак. Галава ахвяры была закручаная скотчам, рукі звязаныя за спінай, а ногі па галёнку пагружаныя ў вядро з цэментам вагой 22 кілаграмы.

Асобу Марцінэса ідэнтыфікавалі па татуіроўцы і адбітках пальцаў. Пра яго знікненне яшчэ ў лютым заявіла сяброўка.



Па словах прадстаўнікоў паліцыі, Марцінэс, як мяркуецца, памёр ад асфіксіі. Пры гэтым пакуль незразумела, ці быў мужчына яшчэ жывы, калі яго кінулі ў ваду, або яго забілі раней.

Крыніцы ў паліцыі паведамілі журналістам, што Марцінэс належаў да бруклінскай вулічнай банды *G Stone Crips*. Яго арыштоўвалі агулам больш за 30 разоў.

Адзначаецца, што гэта першы афіцыйна задакументаваны ў ЗША выпадак выяўлення цела з «цэментнымі чаравікамі». Такі спосаб расправы лічыўся элементам «гарадскіх легенд» аб мафіі.

Пры гэтым у двух запратакаліраваных уладамі выпадках да кінутых у ваду целаў злачынцаў былі прывязаныя бетонныя блокі. Гэта было ў Нью-Джэрсі ў 1941 годзе і ў Нью-Ёрку ў 1964-м.

**Sky.com**

# 19-гадовы хлопец адкрыў у Мінску краму з рэчамі ў нацыянальным стылі

У мінскім гандлёвым цэнтры «Сілуэт» (каля Камароўскага рынка) ужо больш за два месяцы працуе крама «Дарэчы», дзе прадаюцца розныя вышымайкі, кубкі і іншыя рэчы з нацыянальным арнаментам. Яе уладальнік — 19-гадовы Вадзім.

«З дапамогай бацькі я вырашыў адкрыць краму «Дарэчы». Сёння людзі цікавяцца нацыянальнымі рэчамі, таму, папрацаваўшы ўжо больш за два месяцы, мы зразумелі, што не дарма гэта робім».

Сам Вадзім ішоў да беларускасці з 12 год. Крыніцай натхнення была беларуская музыка, а дакладней, «Ляпіс Трубяцкі» і Лявон Вольскі. Паступова хлопец стаў цікавіцца беларускай мовай, гісторыяй і культурай — і вось цяпер сам робіць унёсак у яе развіццё.

Паступова Вадзім пераканаў бацьку ў важнасці нацыянальных каштоўнасцяў. «Бацька проста не цікавіўся гэтым, а цяпер у яго, як і ў мяне, набітая татуіроўка з «Пагоняй».

У краме «Дарэчы» прадаюцца байкі, майкі, сувеніры, гаманцы, дзіцячыя вышыванкі, сумкі, бранзалеты і шмат чаго іншага. «У нас ёсць прадукцыя *symbal.by, Mark Formelle*, розныя вырабы майстроў з Ракава і Гродна. Я вось спецыяльна павесіў дзіцячыя вышыванкі на ўваходзе. Людзі ходзяць і замілоўваюцца».

Вадзім адзначае, што стаўленне мінакоў абсалютна рознае, але мала бывае абыякавых. «Дзесьці 70% падтрымліваюць. 20% — ставяцца адмоўна і толькі 10% — памяркоўна. Бывае, я бачу, што людзі кепска разумеюць пабеларуску, але, калі я прапаную з імі размаўляць па-руску, яны адмаўляюцца, кажучы, што ім падабаецца беларуская мова».





Вадзім з бацькам у Львове на матчы зборных Украіны і Беларусі

А між тым у краму зайшоў мужчына сярэдняга ўзросту, каб выбраць сабе вышымайку ці майку з «Пагоняй». «Дзякуй вам, хлопцы, я вось некалькі год таксама ў «Сілуэце» працаваў, цяпер у іншым месцы, але вы робіце годную справу».

Вадзім адзначае, што бізнэс ідзе даволі паспяхова. Паколькі ўсе рэчы беларускай вытворчасці, падаткаў даводзіцца плаціць трохі менш, чым тым, хто закупляецца ў Расіі ці Еўропе. Падчас гутаркі краму наведала 5—6 чалавек, але Вадзім адзначае, што гэта яшчэ даволі мала для панядзелка. Вось і дзяўчына прыйшла па байку ці майку з нацыянальнымі сімваламі, каб падарыць свайму хлопцу на дзень народзінаў.

Суседзі па гандлёвых кропках часта наведваюць краму. Па словах Вадзіма, больш за ўсіх ягоную справу падтрымліваюць мясцовыя ахоўнікі. «Так, былі тут уладальнікі кропак, якія прыходзілі, абражалі, але большасць цалкам падтрымлівае ідэю такіх рэчаў».

Вадзім спадзяецца, што беларуская культура будзе пашырацца сярод нашых людзей, а сам ён хоча проста зрабіць свой унёсак у яе папулярызацыю.

**Мікіта Недаверкаў, фота Ірыны Арахоўскай**

## Вячэраць пры свечках можна — МНС супакоіла

Нядаўнія дапаўненні і змены ў Правілы пажарнай бяспекі ў Беларусі не забараняюць паліць свечку ў памяшканні ў падсвечніку або ў адмысловым прыстасаванні, паведаміў прэс-сакратар МНС Беларусі Віталь Навіцкі.

«Калі свечка знаходзіцца ў падсвечніку ці любым іншым адмысловым прыстасаванні — гэта не адкрыты агонь. Як і каміны, печы або любыя прыстасаванні для гатавання ежы», — растлумачыў Віталь Навіцкі.

Ён таксама растлумачыў, што ва ўстановах грамадскага харчавання не дапускаюцца небяспечныя трукі з агнём пры падачы страў або кактэйляў.

«На жаль, у Беларусі былі выпадкі, калі людзі атрымлівалі апёкі ў такіх сітуацыях», — дадаў прадстаўнік МНС.

«Самая тыповая небяспечная сітуацыя з выкарыстаннем адкрытага агню — гэта калі ў цёмнай шафцы свечкай спрабуюць падсвяціць паказанні лічыльніка газу», — таксама адзначыў Віталь Навіцкі.

Акрамя таго, прадстаўнік ведамства звярнуў увагу, што МНС пастаянна збірае прапановы па магчымых зменах правілаў пажарнай бяспекі. Іх можна накіроўваць праз сайт міністэрства. Таксама пры МНС дзейнічае грамадскакансультацыйная рада.

Як паведамлялася, дапаўненні і змены ў Правілы пажарнай бяспекі ў Беларусі набылі моц 1 мая. У прыватнасці, у будынках, збудаваннях і памяшканнях забараняецца распальваць полымя, у тым ліку выкарыстоўваць свечкі, паходні і іншыя агнявыя эфекты нават у сцэнічных пастаноўках. Ёсць некаторыя выключэнні — у тым ліку набажэнствы ў цэрквах і выкарыстанне свечак дома.

Таксама зараз курэнне на аб'ектах дапускаецца толькі ў спецыяльна адведзеных, абсталяваных і пазначаных указальнікамі месцах, вызначаных загадам кіраўніка суб'екта гаспадарання.

**БелТА**

## Куніца вывела са строю Вялікі адронны калайдар

У Швейцарыі куніца вывела са строю Вялікі адронны калайдар. Найбуйнейшы ў свеце паскаральнік зараджаных часціц прыйшлося спыніць пасля кароткага замыкання, паведамляе *Phys.org*.

Жывёла прабралася ў электрычную сістэму і пагрызла адзін з трансфарматараў. Лабараторыя на некаторы час засталася без электрычнасці. У Цэнтры еўрапейскіх ядзерных даследаванняў заявілі, што на ліквідацыю наступстваў інцыдэнту пойдзе некалькі дзён.

## Францыя ўвяла часовую забарону на вытворчасць фуа-гра

Гурманам, якія планавалі наведаць Францыю ў найбліжэйшыя тры месяцы, прыйдзецца перанесці падарожжа. Краіна ўводзіць часовую забарону на выраб культавага паштэту фуа-гра з-за асцярогі, што на паўднёвым захадзе краіны пачнецца эпідэмія птушынага грыпу. Пра гэта піша *Le Figaro*.



Забарона ўведзеная ў 18 дэпартаментах, дзе выраблюць больш чым 70% усяго аб'ёму прадукту. Паведамляецца, што забарона будзе дзейнічаць да 15 жніўня.

Фермеры папярэдне ацэньваюць свае страты ў 130 млн еўра, бо часова не змогуць утрымліваць качак ці гусей. Пры гэтым урад Францыі абяцае кампенсаваць выдаткі вытворцаў фуа-гра. Але вытворцы кажуць, што дапамогі будзе недастаткова.

## Брытанская газета без вэб-сайта зачынілася праз два месяцы пасля запуску

Брытанская газета *The New Day* была зачыненая праз два месяцы пасля запуску з-за вельмі нізкіх продажаў, паведамляе BBC.

Першапачаткова *The New Day* задумвалася як газета для людзей з недахопам вольнага часу. Характэрна, што выданне мела акаўнты ў самых папулярных сацсетках, адмовіўшыся толькі ад вэб-сайта. Па словах стваральнікаў газеты, у ёй павінен быў быць прадстаўлены дайджэст самых актуальных за дзень навін.

Чакалася, што наклад газеты неўзабаве пасля яе запуску складзе прыкладна 200 тысяч асобнікаў, аднак да заканчэння другога месяца існавання *The New Day* раскуплялася толькі па 40 тысяч копій.

Вядома, што цяпер усе 25 супрацоўнікаў газеты звольненыя, аднак большасці з іх было прапанавана заняць пасаду ў іншых газетах, якія належаць таму ж выдавецтву.

Кіраўнікі *The New Day* адзначылі, што першапачаткова ідэя стварыць газету толькі ў папяровым варыянце выклікала ў чытачоў вялікую цікавасць, аднак яна неўзабаве змянілася, паколькі ў наш час людзі не могуць уявіць сваё жыццё без пастаяннага абнаўлення інфармацыі. Зразумела, што такім патрабаванням могуць адпавядаць толькі сайты газет, якія абнаўляюцца ў рэжыме рэальнага часу.




Вядома, што *The New Day* стала першай газетай, запушчанай у Брытаніі з 2010 года.

Характэрна, што ў развітых краінах у апошні час назіраецца супрацьлеглая тэндэнцыя: вядучыя газеты і часопісы адмаўляюцца ад папяровых версій, займаючыся развіццём сайтаў.

# Міліцыя зацікавілася калгасам, які фігураваў у нядаўнім расследаванні «Нашай Нівы»

На сайце магілёўскага УУС 4 мая з'явіўся такі допіс: «Упраўленнем па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Магілёўскага аблвыканкама сумесна з Касцюковіцкім РАУС праводзіцца праверка па факце рэалізацыі скаціны насельніцтву адказнымі асобамі аднаго з СВК Касцюковіцкага раёна».

«Цягам папярэдняга аналізу вынятай з СВК бухгалтарскай дакументацыі выяўлена, што толькі за сакавік і красавік гэтага года агульная вага рэалізаванай з ферм СВК прадукцыі складае 27 тон на суму больш як 840 мільёнаў рублёў, што выклікае падазрэнні ў тым, што скаціна рэалізавалася камерсантам для далейшага перапродажу. У цяперашні час праверяецца законнасць заключаных угодаў», — таксама гаворыцца ў паведамленні.

Якое менавіта СВК правяраецца, міліцыя не ўдакладніла.

Але, як стала вядома «Нашай Ніве», гаворка ідзе пра «Парыжскую камуну» — тую самую гаспадарку, якая нядаўна фігуравала ў нашым расследаванні пра феадалізм у Касцюковіцкім раёне.

Тады, апроч іншага, мы высветлілі, што праз самадурства старшыні мясцовага райвыканкама Дзмітрыя Малашанкі «Парыжская камуна» не можа здаць мяса на мясакамбінат, бо «мэр» забараняе ветстанцыі выдаваць неабходныя паперы.

Мы публікавалі і адпаведны аўдыёзапіс — размову старшыні «Парыжскай камуны» Аляксандра Чаркасава з галоўным ветэрынарам раёна, дзе тая проста ў гэтым прызнавалася.

І вось цяпер вынікае, што самога Чаркасава вінавацяць у продажы скаціны «камерсантам».

Але ці злачынства гэта?

Мы звязаліся з супрацоўнікамі «Парыжскай камуны», якія пацвердзілі, што УБЭЗ выняў усю справаздачнасць, якую цяпер вывучае.

Але, маўляў, нічога супрацьзаконнага «Парыжская камуна» не рабіла.

Таму супрацоўнікі выказалі здагадку, што і гэтая чарговая праверка скончыцца нічым — ужо прайшоў тыдзень, а ніякіх прэтэнзій да «Паркамуны» няма.

Гісторыя дзіўная: па словах мясцовых, як толькі расследаванне з'явілася ў прэсе, у раёне адразу пачалі разбіральніцтвы. Але не з прычынамі праблемы — кіраўніцтва больш хвалявала, чаму гэта стала вядомым.

Вышэйшыя чыноўнікі зладзілі разнос кіраўніцы касцюковіцкага аддзела ідэалогіі: як яна дапусціла, што «апазіцыя» прыехала ў раён і гаварыла тут з людзьмі?

Таксама трэслі шараговых рабочых з мэтай даведацца, хто ж паскардзіўся ў «Нашу Ніву».

Некаторым, хто тады размаўляў з намі адкрыта, нават прапаноўвалі адмовіцца ад сваіх словаў і заявіць, што журналісты гэта ўсё прыдумалі.

Але людзі сказалі, што ў сваіх словах яны ўпэўненыя.

Дарэчы, пасля нашага матэрыялу ў Касцюковіцкі раён з'ездзілі і журналісты папулярнага сайта «Тут.бай».

Мы працягваем сачыць за сітуацыяй.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Дасягненне нейтралітэту павінна стаць галоўнай мэтай замежнай палітыкі Беларусі

Піша **Андрэй Дзмітрыеў**.

**У наступныя 10 год Беларусі трэба выбудаваць замежную і ўнутраную палітыку такім чынам, каб да 2025-га стаць нейтральнай краінай. Далучэнне да любога з бакоў, ЕС або РФ, — гэта параза Беларусі.**

Пра гэта я казаў падчас дыскусіі, праведзенай *Belarus security blog*.

Непрыемнай навіной для многіх чытачоў незалежных СМІ на мінулым тыдні сталі дадзеныя даследавання лабараторыі Андрэя Вардамацкага аб геапалітычных прыхільнасцях беларусаў: 70% аддаюць перавагу РФ, а ЕС падтрымлівае абсалютная меншасць за апошнія 25 гадоў — 15%. Нават не ўвесь дэмакратычны электарат, які складае прыкладна 25%, падтрымлівае праеўрапейскі кірунак.



### Канец падыходу 90-х: «З чырвонымі або з белымі?» Беларускі адказ — «Бяані свае»

І ўсё ж у гэтым апытанні ёсць вялікая хіба. Яно ставіць беларусаў перад выбарам: ЕС ці Расея, нібы трэцяга не дадзена. Такі падыход з'яўляецца прамой спадчынай сітуацыі, калі пасля развалу СССР адзіным цэнтрам застаўся ЕС. З тых часоў мінула 25 гадоў. Сітуацыя кардынальна змянілася. І справа тут не толькі ва Украіне і ўцекачах. Проста беларусы ўсё больш разумеюць, што, з улікам гісторыі, палітыкі, эканомікі, выбар аднаго з бакоў непазбежна вядзе да страт. Мы гэта неаднаразова чулі, калі збіралі подпісы падчас «Народнага рэферэндуму», дзе якраз ёсць пытанне пра нейтралітэт і шмат хто пакідаў нам свой подпіс. Ваенны нейтралітэт стаў галоўнай замежнапалітычнай пазіцыяй нашага кандыдата ў прэзідэнты Таццяны Караткевіч, і таксама мы чулі шмат падтрымкі ад шараговых беларусаў.

Напэўна, гэта разумелі і аўтары нашай Канстытуцыі, якія асобным артыкулам запісалі ў ёй пункт аб імкненні да нейтралітэту. Што ж, прыйшоў час пачаць імкнуцца па-сапраўднаму, то бок фармаваць палітыку такім чынам, каб ваенны нейтралітэт у сярэднетэрміновай перспектыве стаў магчымым.

### Хто выйграе ад ваеннага нейтралітэту Беларусі?

Само словазлучэнне «ваенны нейтралітэт» наўрад ці зразумела кожнаму, але вось свае выгоды ад такой палітыкі атрымаюць многія як унутры, так і па-за краінай.

Па-першае, нейтралітэт азначае паевлічэнне вайсковых выдаткаў. Гэта значыць, лепшае фінансаванне арміі, тэхнічнае пераасnaшчэнне, мадэрнізацыя вайсковай адукацыі і вайсковай дактрыны. Усё гэта падыме прэстыж вайскоўца.

Па-другое, ваенны нейтралітэт дасць магчымасць прыцягваць больш фінансавых плыняў, развівацца банкаўскай сферы, створыць новыя ўмовы для балансу інтарэсаў эканамічных гульцоў. Больш за тое, за наш ваенны нейтралітэт нам будуць пляціць тыя, хто ў ім будзе зацікаўлены: Расія, ЕС, ЗША, Кітай. Як у свой час заплацілі за вывад ядзернай зброі. Таксама менавіта такая наша пазіцыя зробіць магчымым стварэнне розных эканамічных рэгіянальных супольнасцяў і бязвізавай прасторы з ЕС. Усе гэта павялічыць паступленні ў бюджэт Беларусі.

Па-трэцяе, ваенны нейтралітэт умацуе Мінск як перамоўную пляцоўку па складаных пытаннях, а іх у рэгіёне будзе яшчэ шмат. Гэта будзе прамым унёсак у нашу незалежнасць і бяспеку.

### Расія нас не адпусціць

Самым галоўным контраргументам з'яўляецца тое, што Расея ніколі не «адпусціць» Беларусь. Сёння так і ёсць, не спрачаюся. Але праз 10 гадоў, што для гісторыі і палітыкі тэрмін не такі і вялікі, гэта будзе магчыма, калі да гэтага рыхтавацца. Дый не варта пераацэньваць сваю значнасць.

Што сёння робіць Расея? Стварае дублюючыя нашым прамысловыя вытворчасці і вайсковыя аб'екты на сваёй тэрыторыі, размяшчае ў нашых межах вайсковыя базы, планамерна ўзмацняе сваю сельскую гаспадарку, памяншаючы залежнасць ад паставак нашага аграсектара. Праз 10 гадоў, калі вайсковыя аб'екты на нашай тэрыторыі стануць канчаткова не патрэбны, сітуацыя ва Украіне прыйдзе да свайго балансу, дый сама Расея істотна зменіцца з прычыны эканамічнага крызісу — рашэнне па ваенным нейтралітэце Беларусі, з захаваннем супрацоўніцтва ў ваеннапрамысловай сферы, стане магчымым.

### 5 крокаў да нейтралітэту

**Сфарміраваць разуменне важнасці і выгод беларускага ваеннага нейтралітэту ў Маскве, Вашынгтоне, Пекіне, Брусэлі.** Гэта часткова ўжо адбываецца ў межах той палітыкі, якую стаў праводзіць беларускі МЗС у сувязі з Украінай. Гаворка цяпер ідзе аб кулуарных перамовах, канферэнцыях, а таксама аб вяртанні ў Мінск офіса АБСЕ. У 90-х Мінск стаў пляцоўкай па перамовах па Нагорным Карабаху, у 2015-м — па Украіне. Абедзве тэмы будуць актуальныя яшчэ доўга, і да іх дададуцца іншыя. Важна зафіксаваць сваю палітыку як нейтральную і мірную ў адносінах да гэтых канфліктаў. Мінск сапраўды можа стаць мірнай пляцоўкай, бо дыпламатычнага ўзмацнення Беларусі ў сілу яе памераў, геаграфічнага знаходжання і эканомікі не будуць баяцца іншыя краіны. Трэба ўжо сёння дакладна і адназначна заявіць: Беларусь не імкнецца стаць сябрам ЕС, не будзе сябрам НАТО, але і ўзмацняць і развіваць на сваёй тэрыторыі прысутнасць войскаў краін АДКБ мы не плануем. Адмова ад размяшчэння расійскай базы з'яўляецца добрым прыкладам.

**Нарошчваць эканамічную і энергетычную незалежнасць.** Гаворка ідзе аб выхадзе на новыя рынкі, стварэнні эканамічных стымулаў для развіцця новай прамысловасці і сектараў у эканоміцы, павелічэнні долі малога і сярэдняга бізнэсу ў ВУП. У энергетыцы неабходна паслядоўна павялічваць альтэрнатыўныя крыніцы, не завязаныя на Расею, і энергазберажэнне на прадпрыемствах.

**Фарміраваць нацыянальную самасвядомасць.** Нейтралітэт немагчымы без усведамлення грамадствам каштоўнасці сваёй дзяржавы, гісторыі, культуры, незалежнасці, і, што самае галоўнае, важнасці нацыянальнага адзінства. Не на аснове прасоўвання адзіна-правільнага пункту гледжання, а на аснове грамадскага дыялогу. Калі кожнаму грамадзяніну тут ёсць месца, таму ён разумее: гэта яго краіна.

**Стварыць тэрытарыяльную абарону.** Сёння ў Беларусі яна пакуль носіць фармальна-бутафорскі характар. Раздалі пагоны кіраўнікам абласцей, паціснулі рукі — і да пабачэння. Трэба вызначыцца, як будзе пабудавана абарона ў нашай краіне, і пачаць гэты працэс, уключаючы адукацыю насельніцтва, стварэнне запасаў харчавання і амуніцыі, і гэтак далей.

**Развіваць рэгіянальнае супрацоўніцтва.** Беларусь павінна быць максімальна інтэгравана ў эканамічнае супрацоўніцтва ў сваім рэгіёне і на ўсход, і на захад (Вышаградская група, Усходняе партнёрства), і на поўнач, і на поўдзень. Менавіта рэальная эканамічная шматвектарнасць у рэгіёне дазволіць нам павялічыць колькасць зацікаўленых бакоў у нашым ваенным нейтралітэце.

У 2014-м годзе Міністэрства эканомікі прыняло «Стратэгію 2030». Дакумент, які апісвае, якой павінна быць Беларусь праз 15 гадоў. У самім тэксце мноства спрэчнага, але менавіта так трэба планаваць будучыню краіны, абапіраючыся на доўгатэрміновае бачанне. У гэтай стратэгіі няма важнага элемента — замежнапалітычнага і ваеннага. Фарміраванне палітыкі дасягнення ваеннага нейтралітэту можа кампенсаваць гэты недахоп.

**Запрашаю ўсіх, хто падзяляе наш пункт гледжання і гатовы працаваць над дэталёвай праграмай, пісаць мне асабіста на мэйл a.dmitriev@zapraudu.info**

## Паэтычным радком

### Вось гэта б быў «дзень перамогі»!

Савок муціруе нанова,
Тырчаць з Крамля фашызму рогі.
Перамаглі б саўка ў галовах —
Вось гэта б быў "дзень перамогі"!

**Кнехт, Каменная Горка (Мінскі раён)**

### Шаноўная «Наша Ніва»,

шчыры дзякуй за вашы спачуванні з прычыны смерці нашага бацькі Уладзіміра Міхайлавіча Казберука. Мы вельмі ўдзячныя за артыкул памяці, які з'явіўся на вашым сайце.

**З павагай, Аляксандр і Дзмітрый Казберукі**

## Мова наша

### Прапаную слова: «татуваць»

Ёсць слова тату (малюнак на скуры, ад англійскага *tattoo*). Слоўнікі падаюць утвораныя ад яго дзеясловы: татуіраваць, татуяваць. Але, як на маё вуха, слова «татуіраваць» не адпавядае гучанню беларускай мовы, а «татуяваць» — цяжка вымавіць. Памойму, слова «татуваць» улагодзіць гучанне.

Чужамоўныя словы, што ўводзяцца ў беларускую мову, павінны быць адпаведнымі гучанню літаратурнай мовы без вялікіх адхіленняў, наколькі гэта магчыма.

Дарэчы, хачу заўважыць, што сучасныя дарослыя заахвочваюцца «роспісам на целе», быццам гэтым яны дасягнуць звышкультуру, у сапраўднасці гэта не што іншае, як спісанне скуры. Ёсць выраз, які я чуў як праклён-анафему: пішы, каб табе чэрці скуру спісалі. Выдаткаваць грошы на нейкі «роспіс на целе» (татуванку) не надасць чалавеку ні мудрасці, ні лепшага яму здароўя, а пазбыцца пазней гэтай вось «татуванкі» будзе нашмат трудней, чым яе зрабіць. Трэба шмат перадумаць, каб зрабіць такі ўчынак сабе на целе.

**Кастусь Верабей, Фармінгдэйл (ЗША)**

## Дзякуем нашым чытачам за ахвяраванні

Дзякуем неабыякавым чытачам за ахвяраванні на выхад NN.BY/«Наша Ніва» праз сістэму АРІП:

Граз-му Н. А., 1618 ruslight, Л-ка В., астатк з кртк і, К-р Д. Ф. Куп-ч І. А. Б.А.У. DZ, С-ко Д.В., Ш.

# Знайшоў у страве волас — і ледзь не зняў скальп з сужыцелькі

Дзікі выпадак адбыўся ў Бабруйску.

45-гадовая Таццяна пражыла з маладзейшым на дзевяць гадоў грамадзянскім мужам Русланам 13 гадоў. Але сёлетняя велікодная вячэра ледзь не стала для яе фатальнай. Спачатку мужчына адрэзаў сужыцельцы валасы велізарным кухонным нажом. А потым, замахнуўшыся другі раз, зняў скуру з астатнімі валасамі з патыліцы. Зразумеўшы, што нарабіў, Руслан сам выклікаў хуткую дапамогу...

Высветлілася, што гэта ўжо не першы іх канфлікт на побытавай глебе. У чым прычына? Руслан «проста вельмі ўжо гідлівы», тлумачыць Таццяна. Па яе словах, у ежы ён непатрабавальны, але ў маладосці вось трапіўся піражок з воласам — і з таго часу для яго гэта смяротна.

Жанчына прызнаецца, што раней Руслан ужо не раз пагражаў «намазаць ёй валасы клеем», калі яшчэ раз знойдзе волас у страве. Але гэтым разам перайшоў ад пагроз да рэальных дзеянняў. Таццяна кажа, што ў той вечар Руслан быў трохі нападпітку. Ён пайшоў на кухню есці, а яна сядзела ў зале, глядзела тэлевізар. Раптам пачула крык: «Да якога часу тут будуць гэтыя валасы?» Затым Руслан прыбег да яе з нажом. Далей, прызнаецца жанчына, яна мала што памятае — кажа, напэўна, страціла прытомнасць.

Сама Таццяна на свайго сужыцеля злосці не трымае і заяву ў міліцыю пісаць не збіраецца. Але і жыць у яго кватэры таксама не будзе, хоча вярнуцца да дачкі — у іх застаўся пакой у інтэрнаце.

Раз заявы не будзе, прыцягнуць да крымінальнай адказнасці «празмерна гідлівага» мужчыну можна толькі ў тым выпадку, калі траўмы, нанесеныя Таццяне, будуць прызнаныя цяжкімі цялеснымі пашкоджаннямі.

Суседзі Руслана і Таццяны ўпэўненыя, што жанчына вернецца да свайго сужыцеля. Па іх словах, той ужо некалькі разоў выганяў Таццяну з хаты. Самога Руслана суседзі характарызуюць як здаровага мужыка, які любіць паскандаліць, калі падап'е. Кажуць, што ён быў дэсантнік, раней нават вучыўся ў вайсковай вучэльні, але кінуў.

Сам Руслан кажа, што збіраецца ісці прасіць прабачэння ў Таццяны. Але не адразу, а праз нейкі час. «Цяпер увесь горад супраць мяне настроіўся, трэба пачакаць», — каментуе ён.

**Паводле tut.by, kp.by**

## Трагедыя на дзіцячай пляцоўцы

У Мінску на дзіцячай горцы знайшлі 6-гадовую дзяўчынку без прыкмет жыцця.


Тая самая горка.

Трагедыя здарылася каля інтэрната ЦЭЦ-4, што на Альшэўскага, 11. Паводле папярэдняй версіі, дзіця зачапілася за парэнчыну шнуркамі ад курткі. Яе заўважылі мінакі, паспрабавалі выратаваць: выклікалі хуткую, рабілі штучнае дыханне і масаж сэрца. Затым перадалі дактарам, але, нягледзячы на ўсе намаганні, дзяўчынка памерла наступнай раніцай.

Вядома, што малую звалі Еўфрасінняй. Яна вучылася ў беларускамоўнай гімназіі №23. Ці была яна на дзіцячай пляцоўцы адна, ці хтосьці за ёй прыглядаў — пэўных звестак няма.

Па словах суседзяў, тая пляцоўка не карыстаецца вялікай папулярнасцю. Вось і ў той злашчасны вечар на ёй не было нікога, акрамя Еўфрасінні. Не бачылі бяды і супрацоўніцы крамы па продажы свяцільнікаў. Вялікія вокны крамы выходзяць якраз на пляцоўку.

«Гэта як злы фатум нейкі. У той час, калі гэта ўсё адбывалася, нашыя дзяўчаты вешалі люстры ў іншым памяшканні. А адтуль тую горку і не бачна...» — скрушна кажа адна з прадавачак.

Але, што дакладна адбылося на пляцоўцы, сказаць пакуль нельга. Следчыя правялі агляд месца здарэння, на пляцоўку прыязджаў нават старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч. Аднак афіцыйная версія пакуль не агучаная.

Адзначым, што ў тыя ж дні адбыліся яшчэ два здарэнні з малымі дзецьмі. У адным са шматпавярховікаў па вуліцы Налібоцкай у Мінску выпала з акна 7-гадовая дзяўчынка. Гэта адбылося 3 мая. Калі мама адлучылася з кватэры, яе чацвёра дзяцей засталіся з бабуляй. Малодшае дзіця паставіла табурэтку да акна, каб паглядзець у яго, і выпала. На шчасце, дзяўчынка выжыла, на наступны дзень яна ўжо прыйшла ў прытомнасць. Яе стан застаецца стабільна цяжкім.

А 4 мая ў Баранавічах двухгадовая дзяўчынка выпала з акна 3 паверха. Дзяўчынка разам з 12-гадовым братам вярнулася з прагулкі і папрасіла маму ўключыць мультфільмы. Па інфармацыі Следчага камітэта, мама сказала дзецям ісці ў пакой, дзе стаяў камп'ютар, забыўшыся пра тое, што вокны ў пакоі адчыненыя. Жанчына перад гэтым прыбіралася і адчыніла вокны для праветрывання.

Гэтае дзіця таксама жывое. Дзяўчынка атрымала цяжкія траўмы, у тым ліку закрытую чэрапна-мазгавую.

**УШ**


Уладзіслаў Базоўскі не разгубіўся.

## Міліцыянт выратаваў жанчыну

У Мінскім раёне міліцыянт выратаваў жанчыну, якая сышла са сталічнай бальніцы і хацела скончыць жыццё самагубствам, паведамляе Міністэрства ўнутраных спраў.

Позна ўвечары 3 мая камандзір узвода батальёна міліцыі Цэнтральнага аддзела Дэпартамента аховы Мінска старшы лейтэнант Уладзіслаў Базоўскі вяртаўся пасля праверкі вартавога паста «Заслаўскае вадасховішча» ў вёсцы Качына Мінскага раёна. Да яго падбег чалавек і расказаў, што бачыў, як з парапета ў ваду скочыў чалавек. Ішоў моцны дождж, разгледзець нешта здалёк не было як, таму яны беглі больш як 600 м, пакуль дабраліся да зручнага месца, дзе міліцыянт кінуўся ў ваду і паплыў на дапамогу.

Танула жанчына. Базоўскі выцягнуў пацярпелую на бераг і аказаў ёй першую медыцынскую дапамогу. Жанчына хутка апрытомнела. Высветлілася, што яна спрабавала скончыць жыццё самагубствам. Падаючы з парапета, жанчына да таго ж моцна ўдарылася аб бетонную адмостку.

Пацярпелую завезлі ў бальніцу. Цяпер яна па-за небяспекай, хоць і атрымала пераахаладжэнне. Аказалася, гэту 48-гадовую мінчанку ад 1 мая шукалі родныя. Жанчына сышла з бальніцы пасля складанай аперацыі і знікла. Дакладныя прычыны, што штурхнулі жанчыну на такі крок, пакуль невядомыя.

**УШ**

## Акцёр з Маладзечна страціў палец, разнімаючы свайго дварняка з байцовым сабакам

Акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра, што ў Маладзечне, Андрыян Барткевіч застаўся без дзвюх фалангаў мезенца левай рукі, ратуючы свайго дварняка Кекса ад стафардшырскага тэр'ера сваіх суседзяў Расмуса.

— Я гуляў з сабакам у парку. Раптам на Кекса кінуўся стафардшырскі тэр'ер. Расмус са шклянымі вачыма ўчапіўся зубамі ў заднюю нагу майго сабакі. Я кінуўся ратаваць Кекса. У выніку — дзве дзіркі ў жываце Кекса і адсутнасць пальца ў мяне.

Дактары спрабавалі выратаваць палец акцёра, але з-за пагрозы інфекцыі вымушаныя былі ампутаваць дзве фалангі мезенца левай кісці.

— У міліцыю заявы не пісаў. Разумею, што сам парушыў тэхніку бяспекі. Разнімаць сабак трэба, адцягваючы іх за заднія лапы і ўставіўшы паміж сківіц металічны прадмет. У той момант не было часу думаць пра тэхніку бяспекі. Я спрабаваў выратаваць свайго Кекса. Мой сабака не згублены. Цяпер з ім усё ў парадку.


Дварняк Кекс Андрыяна Барткевіча.

Акцёр сцвярджае, што гаспадары байцовага сабакі ігнаруюць меры бяспекі, не адзяваюць на сабаку наморднік і адпускаюць бегаць без ланцуга.

Гаспадыня стафардшырскага тэр'ера Аксана не адчувае ў тым, што здарылася, ні сваёй віны, ні віны свайго сабакі:

— Вы ведаеце, у той дзень не толькі мы выгульвалі сваіх сабак. У той валтузні паміж сабакамі ўдзельнічала яшчэ адна аўчарка. Таму наўрад ці можна сцвярджаць, што вінаваты менавіта Расмус. На той момант яму было ўсяго шэсць месяцаў, і ніякай агрэсіі ён не выяўляў. У мяне чатырохгадовая дачка, і я не баюся пакідаць яе з Расмусам.

Па словах Аксаны, яе сабака праходзіў курс дрэсіроўкі і ён абсалютна бяспечны:

— Андрыяну не трэба было ўмешвацца ў сутычку сабак. У нейкай ступені гаспадар дварняка сам вінаваты. Цяпер ён тэлефануе мне і патрабуе 200 даляраў ЗША ў якасці кампенсацыі, на лекі. Але я не атрымліваю заробак у далярах. Я гатова купіць лекі, якія ён скажа, але плаціць валюту не буду.

**Сяргей Зянько, kraj.by**

## За ДТЗ з даішнікам — да 5 гадоў

Матацыклісту, у ДТЗ з удзелам якога пацярпеў супрацоўнік ДАІ, выстаўленае абвінавачанне. Пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Беларусі Юлія Ганчарова.

Кіроўцу матацыкла выстаўленае абвінавачванне за парушэнне Правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання. Максімальнае пакаранне — да 5 гадоў пазбаўлення волі.

Нагадаем, ДТЗ здарылася 18 красавіка ў цэнтры Мінска. Інспектар ДПС звярнуў увагу на матацыкліста, які парушаў правілы і ехаў без рэгістрацыйнага нумарнога знака, паспрабаваў затрымаць яго. Затым ці то матацыкліст хацеў з'ехаць, ці то выпадкова «газануў», але матацыкл паехаў. Ён вынес матацыкліста і міліцыянта на скрыжаванне, дзе іх збіла аўто інкасатараў. Інспектар ДАІ ўжо некалькі тыдняў знаходзіцца ў коме.

**УШ**

# Разборкі ў Баранавічах: бацька дапамог сыну збіць чужое дзіця

Мужчына сілай трымаў суседскага хлопца, каб уласны сын мог яго біць.

На мінулым тыдні Укантакце з'явілася відэа з камеры назірання, усталяванай у адным з баранавіцкіх двароў. На ім відаць, як дарослы мужчына трымае суседскае дзіця, пакуль яго ўласны сын наносіць таму тузін удараў нагамі. Гэтае відэа ў сецiва загрузіла маці пацярпелага хлопца. У міліцыі не выявілі складу крымінальнага злачынства ў паводзінах суседа, які здзекаваўся з яе сына, напісала яна. Таму, маўляў, апублікавала гэты запіс.

Відэа абляцела беларускія СМІ, гісторыя атрымалася вельмі рэзананснай. Мы пагаварылі з усімі бакамі гэтай дваровай драмы.

Пацярпелы бок — Ірына, маці хлопца, якога збілі, — настойвае, што сусед проста быў п'яны і неадэкватны, калі вырашыў вось так правучыць яе дзіця. «У той дзень да нас у кватэру гуртам увaліліся суседскія дзеці, прывялі нашага Кліма, — эмацыйна распавяла жанчына. — Той маўчаў, нічога не мог сказаць — стаіць, толькі носам шмыгае. А нос чырвоны, нібыта сліва. Мы давай пытацца: а што нарабілася, а чаму ты ў такім стане? Тут ён як заплача! Дзеці гэтыя наперабой штосьці гамоняць: «дзядзька», «заступіўся»... Нічога не зразумела. Сын выціснуў з сябе прызнанне, што ён заступіўся за свайго сябра, якога біў суседскі хлопец — проста пхнуў таго. А ў адказ вылецеў бацька і пачаў збіваць за гэта Кліма».

Паводле Ірыны, пасля гэтага яны адразу кінуліся ў суседскую кватэру, на якую паказалі дзеці.

«Пачалі разбірацца. Я ж тады яшчэ відэа не бачыла. А там той Віця п'яны ў дым, кажа штосьці незразумелае, на нагах не стаіць. Мой муж яму: «Хадзем, пагаворым». На эмоцыях былі, але не стане ж з ім у кватэры адносіны высвятляць. Ну а Віця за жонкай хаваецца, нічога не дамагліся мы тады», — распавяла жанчына.

Паводле яе слоў, пасля таго як яны ўбачылі відэа з камеры назірання, то падалі на суседа ў суд.

«У майго сына былі лёгкія цялесныя пашкоджанні, так экспертыза высветліла! Але ўжо ж амаль месяц прайшоў, складу крымінальнага злачынства міліцыя не выявіла. Толькі штраф яму там нейкі дадуць. Але як жа так? Гэты чалавек збіў майго сына, а яму толькі штраф! Я таму і выклала відэа ў інтэрнэт, каб людзі бачылі, як у нас бывае. Мой сын цяпер у пад'езд баіцца заходзіць! На ліфце не ездзіць! Кажа: а што, калі зноў таго дзядзьку сустрэну? Гэта велізарны шок для дзіцяці», — дадала Ірына.




Версія Віктара чакана адрозніваецца ад версіі Ірыны: ён прызнае віну, але сцвярджае, што гэта ягонага сына збілі да страсення мазгоў.

«У той дзень прыбягае дадому мой малодшы ўвесь у слязах ды крычыць: «Тата-тата, там Рому б'юць», — расказаў Віктар. — Я адразу на вуліцу — а там майго сына гэты Клім па зямлі качаў, нагамі мутузіў, збіў яго капітальна. Мы ж потым колькі лячыліся! Страсенне мазгоў дыягнаставалі! Дактары казалі, што ў бальніцу трэба. Але там месцаў не было, і мы дома лячыліся. А колькі лекаў выхлебталі!» — расказаў мужчына і запэўніў, што ўсе паперы аб лячэнні сына ў яго на руках.

Аднак калі мы папрасілі мужчыну выслаць фота адпаведнага запісу ў амбулаторный кніжцы, той спытаў: «А навошта?» І нічога не даслаў. Потым Віктар працягнуў:

«А тое, што Клім Рому нібыта толькі піхнуў — дык хлусня гэта. Чаго ў яго тады ўся галава і твар у драпінах былі?» — сказаў мужчына.

Паводле яго, канфлікт паміж дзецьмі разгарэўся падчас гульні ў футбол, маўляў, не падзялілі мячык.

«Але гэта не першы раз ужо Клім нашага Рому біў. Але мы неяк гэта не ўздымалі так сур'ёзна: ну дзеці, ну б'юцца, ну пройдзе. Мы нават пасля гэтага здарэння не сталі заяву пісаць, хоць нам раілі ў міліцыі. Але калі ўжо яны выклалі гэтае відэа ў інтэрнэт, то мы, відаць, заяву ўсё ж падамо», — сказаў Віктар.

Але сёння ён шкадуе пра свае дзеянні.

«Ну так, пагарачыўся, на эмоцыях, са злосці. Я правучыць хацеў, сам жа я не біў яго, але ўсё адно няправільна, вядома, прызнаю. Ну і п'яны я не быў, як яны там кажуць, хлусня гэта».

Паводле Віктара, цяпер ягоныя сыны таксама баяцца выходзіць на вуліцу, іх водзяць гуляць у суседнія двары.

Гісторыя блытаная. Ці рэальна, што ў Ромы дыягнаставалі страсенне і пры гэтым не паклалі ў бальніцу, «бо не было месцаў»? Гэта ж дзіця! А таксама як мог такі знявечаны, са словаў бацькоў, хлопец са страсеннем мазгоў так біць гэтага Кліма?

У міліцыі не сталі каментаваць здарэнне. Праз месяц будзе суд, які і вызначыць, як адкажа Віктар.

**Арцём Гарбацэвіч**

# У Мінску шукаюць падазраванага ў серыі нападаў на дзяўчат

Супрацоўнікі ўпраўлення крымінальнага вышуку ГУУС Мінгарвыканкама шукаюць мужчыну па падазрэнні ў здзяйсненні серыі нападаў на дзяўчат з мэтай сэксуальнага гвалту. Падазраваны трапіў у аб'ектыў камер відэаназірання падчас здзяйснення пакупак у адной са сталічных крам.

Мужчына з выгляду мае 35—40 гадоў, спартыўнага целаскладу, лысы. Быў апрануты ў цёмную камізэльку з капюшонам з шырокай сіняй паласой, зялёную кофту, цёмна-сінія джынсы, цёмныя чаравікі, на галаве была павязаная цёмная бандана. На правым вуху мелася блютуз-прылада бесправаднoй сувязі. Пры сабе меў таксама невялікую цёмную сумачку.

Калі вы пазналі мужчыну на фота альбо маеце інфармацыю пра яго магчымае месцазнаходжанне, міліцыя просіць паведаміць пра гэта па тэлефонах: (29) 629-65-92; (29) 674-54-44; (029) 112-49-29 або 102. Канфідэнцыяльнасць гарантуецца.

**УШ**



# Беларускія хакеры абрабавалі банк у ЗША

Пракуратура ў штаце Пенсільванія выставіла двум грамадзянам Беларусі завочныя абвінавачванні ў датычнасці да крадзяжу 1,35 млн даляраў праз кібератакі на банк у ЗША. Пра гэта заявіў журналістам у Пітсбургу пракурор Заходняй акругі Пенсільваніі Дэвід Хіктан.

Паводле інфармацыі ТАСС, гаворка ідзе пра 34-гадовага Аляксея Ярашэвіча і 41-гадовага Ягора Паўленку. Па дадзеных уладаў ЗША, абодва яны былі затрыманыя ў Мінску ў сувязі з расследаваннем дзейнасці міжнароднай хакерскай групоўкі. Паводле сцвярджэння пракуратуры ў Пітсбургу, тыя грошы пра іх удзеле былі скрадзеныя з рахунку нафтагазавай кампаніі *Penneco Oil*, што базуецца ў Пенсільваніі.

Як раней паведамлялася са спасылкай на Следчы камітэт, беларускія праваахоўнікі сумесна з ФБР спынілі дзейнасць міжнароднай злачыннай групы, якая крала сродкі кампаній.

Высветлена, што ўдзельнікі злачыннай групы на працягу некалькіх апошніх гадоў з выкарыстаннем шкоднаснага праграмнага забеспячэння завалодалі рэквізітамі банкаўскіх рахункаў розных кампаній. Так, з рахунку буйной амерыканскай кампаніі групай было выкрадзена 1 млн 350 тыс. даляраў ЗША (па ўсім відаць, гаворка ішла аб *Penneco Oil*). У далейшым злачынная група спрабавала легалізаваць скрадзеныя грошы з дапамогай спецыяльна створаных для гэтых мэтаў фіктыўных кампаній, зарэгістраваных у Беларусі, Кітаі, Бангладэш і іншых краінах.

У красавіку гэтага года ў паведамленні прэс-службы СК гаварылася, што ў Мінску былі затрыманыя два актыўныя ўдзельнікі злачыннай групы — мінчане 1981 і 1974 гадоў нараджэння. У пачатку мая стала вядома, што па крымінальнай справе затрыманы трэці ўдзельнік групы — мінчанін 1972 года нараджэння.

Затрыманым выстаўлена абвінавачванне ў крадзяжы шляхам выкарыстання камп'ютарнай тэхнікі, прычым гэты крадзеж быў учынены арганізаванай групай у асабліва буйным памеры. У дачыненні да затрыманых ужыта мера стрымання ў выглядзе зняшчэння пад варту. Калі віну дакажуць, то хакерам пагражае да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

**БелаПАН**

# На Валадарцы расстралялі смяротніка

Быў выкананы смяротны прысуд Сяргею Іванову. У сакавіку 2015 Іваноў быў прызнаны вінаватым у жорсткім забойстве знаёмай дзяўчыны і асуджаны да расстрэлу.

Іншы асуджаны да смяротнага пакарання, Сяргей Хмялеўскі, падчас выступу ў Вярхоўным судзе 6 мая паведаміў, што ў «спецкалідоры» СІЗА №1 на Валадарцы знаходзіўся некаторы час у адной камеры з іншым смяротнікам. Потым сукамерніка некуды павялі, і цяпер ён знаходзіцца там адзін. Жыхар Мачулішчаў Хмялеўскі заявіў пры разглядзе сваёй скаргі ў Вярхоўным судзе, што суседа па камеры маглі расстраляць.

Вядома, што ў адной камеры з Хмялеўскім знаходзіўся Сяргей Іваноў. У ноч з 17 на 18 красавіка яго вывелі з камеры, а Хмялеўскаму загадалі сабраць асабістыя рэчы сукамерніка. Больш Іванова Хмялеўскі не бачыў.

Каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» Андрэй Палуда спраўдзіў інфармацыю ў сваякоў Іванова. На мінулым тыдні яны атрымалі паведамленне аб смерці сына. Найбліжэйшым часам яны павінны забраць пасведчанне аб смерці, а вось асабістыя рэчы расстралянага яшчэ не вярнулі, паведамляе праваабарончы партал *spring96.org*.

Цяпер на Валадарцы ўтрымліваюцца тры асуджаныя да найвышэйшай меры пакарання: акрамя Хмялеўскага, гэта Генадзь Якавіцкі і Іван Кулеш. Таямніца прывядзення ў выкананне прысуду дагэтуль ахоўваецца моцна: няма як даведацца пра акалічнасці і дату расстрэлу.

**УШ**

# Лявон Вольскі: «Хай мяне судзяць, плаціць я не буду»

8 мая Лявон Вольскі ў Стакгольме атрымаў прэмію *Freemuse Award — 2016*. Арганізатары прэміі адзначылі, што Вольскі працягвае традыцыю музыкаў, якія «становяцца сімваламі рухаў за грамадзянскія правы, выказваючы праз сваю музыку расчараванне і надзею». Лявона назвалі «іконай беларускай музыкі», а ягоныя песні — «гімнамі».

У гэты момант у Беларусі на новы альбом Вольскага сабралі праз інтэрнэт 79% сродкаў. А кіраўніцтва канцэртнай залы «Мінск» нядаўна адмовіла сябрам музыкі, якія хацелі правесці канцэрт у памяць Лявонавай жонкі — Ганна адышла ў іншы свет 23 сакавіка.

Радыё «Свабода» сустрэлася з Лявонам Вольскім.

**— Наколькі гатовы новы альбом? Які ён? І што яшчэ трэба зрабіць, каб ён выйшаў?**

— Трэба грошы прысылаць для таго, каб ён выйшаў. Большая частка гатовая. Я надоечы быў у Вільні, запісаў яшчэ чатыры песні. Альбом велізарны, там 16 песень: восем цяжкіх, восем лёгкіх. Гэта канцэпцыя, якую выпрацавалі Снорэ Бергеруд — саўндпрадзюсар, я і Ганна пару месяцаў таму. Вырашылі, што гэта будзе цікава, каб паказаць мяне з розных бакоў. Што я магу і раўці, а магу і пра каханне спець ціхую песню.

**— Цяжкія па змесце ці па музыцы?**

— Па змесце там усё цяжкае. Асабліва «лёгкія» песні. Там суцэльная дэпрэсія, нават не ведаю чаму, бо пісалася гэта ўсё ў Швейцарыі, дзе мы былі з Ганнай перад Калядамі. Хацелі зрабіць усё як мага хутчэй. І я пісаў ва ўзмоцненым рэжыме. Рабіў дэма і адразу накіроўваў да Снорэ, а ён прымаў ці не прымаў. Некалькі не прыняў, але ўсё ж такі атрымалася напісаць 8 на 8. Дзіўнавата, можа, але з гэтым альбомам вырашана было ісці не па правілах шоўбізнэсу.

**— І якія цяпер правілы?**

— Цяпер такія правілы, што альбомы павінны быць кароткія. Бо народ «стамляецца» слухаць. Слухае пачатак першай песні, пачатак другой — і ўсё... Ёсць, канечне, нармальныя людзі, меламаны. Але я вам першай распавядаю пра гэта, ніхто пра гэта не ведае.

**— Я ўдзячная.**

— Мы хацелі ў Вільні зрабіць чарговае «грандыёзнае» шоу ўвосень, калі скончыцца «мёртвы сезон». Але ні з пушчы ні з поля МЗС Літвы вырашыла адмовіць у візавай падтрымцы і болей не працягваць гэтую практыку. Ёсць такі варыянт, што я пайду на прыём да амбасадара і ён асабіста вырашыць дазволіць, бо ён мае такія паўнамоцтвы. Але сама тэндэнцыя вельмі сумная.

Гэта для нас адзін з ударsituation апошняга часу. Міхалку, напрыклад, удалося выбіць візавую падтрымку. Калі «этыленгліколь стаў цяны ў Палацы спорту», пасля гэтага яму вырашылі дапамагчы.

**— У гэтага альбома ёсць нейкі мэсэдж?**

— Адкрытага мэсэджу, як у папярэдняга альбома, няма. Гэты альбом больш паэтычны. Там грамадска-палітычныя тэмы, сацыяльныя. Я гэтым займаюся ўсё жыццё і не магу ад гэтага адмовіцца. Але там ёсць і чыстая паэзія.

Я ніколі за два месяцы не пісаў такую велізарную колькасць песень. І не «Саўку ды Грышку», а за якія ты будзеш несці сапраўдную адказнасць перад усімі.

**— За якія песні вы ўжо панеслі адказнасць?**

— У «Мроі» была такая песня «Я рок-музыкант». Там закос пад моладзевы пафас, а многія людзі лічылі, што гэта кіраўніцтва да дзеяння. Нічога добрага не атрымалася. Калі заспяваў «Крамбамбулю», мне прыводзілі ў прыклад «Я рок-музыкант»: маўляў, «казаў адно, а цяпер?..»

**— Раз вас ужо назвалі «сімвалам змагання за грамадзянскія правы», то што вам падаецца найбольш важным? Зразумела, што адзін чалавек не можа змагацца «за ўсё».**

— Мяне заўсёды хвалюе свабода. Большую частку свайго жыцця я пражыў у таталітарным грамадстве. Спачатку ў Савецкім Саюзе, потым у гэтай краіне. Мне гэта заўсёды не падабалася. Я пачаў з гэтым змагацца праз творчасць. Значная частка маіх песень прысвечаная свабодзе, змаганню з жыццём паводле хлуслівага кодэксу і ўсімі непрыемнымі атрыбутамі савецкай улады, якія пераняла цяперашняя Беларусь. Безумоўна, можна ад гэтага абстрагавацца, але ў мяне не атрымліваецца, шчыра кажучы. Я спрабаваў — і не атрымліваецца.

**— Як вы на цяперашні жыццёвы момант фармулюеце для сябе, што такое свабода?**

— Як гэта ні смешна гучыць, для мяне істотныя дэмакратычныя каштоўнасці. Свабода для мяне — гэта... ці вы заўважалі, што, напрыклад, у немцаў прынята казаць тое, што ты думаеш? У мяне шмат нямецкіх сяброў. І яны не будуць дзейнічаць паводле такога кодэксу, як у нас: аднаму адно, другому другое. Розныя людзі ёсць, але ў нас у масе такое — на працы адно, дома іншае, пакрасці нешта — без праблем. Мне падаецца, што такое грамадства — яно хворае. І бліскучай будучыні не будзе з такімі падзеннымі эліментамі ў масе. Я спрабую гэта неяк змяніць праз тое, што мне дадзена.

**— Калі вярнуцца да будучыні. Вы таксама часта кажаце пра яе і часта па-рознаму — то аптымістычна, то песімістычна…**

— Я пагляддзеў свае выказванні 2005 года, там проста кашмарнае інтэрв'ю. Там я быў на піку «Крамбамбулі». А гэта, ведаеце, такое — не заўважаеш, што вакол адбываецца. Ты ўвесь час займаешся гэтым гастрольным чосам. То едзеш у тур, то граеш «заказнякі». Тады гэта было прынята, вельмі шмат было карпаратыўных канцэртаў. І там такая «зорка» дае інтэрв'ю — «жызнь удалась, які я маладзец...»

**— Але ж так і было на той момант?**

— Дык праз год ужо ўсё закрылася. Забаранілі. Як ні дзіўна, практыка забаронаў прывяла да патрэбнага ўладам выніку. Народ, натуральна, адвык ад канцэртаў тут, і ўсё.




**Лявон Вольскі атрымліваў прэмію ў стакгольмскай «вёсцы Еўрабачання». Прэмію Вольскі прысвяціў сваёй жонцы Ганне. Перакладчыкам падчас цырымоніі стаў былы пасол Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан. На фота: выканаўчы дырэктар Freemuse Оле Рэйтоу, Лявон Вольскі і Стэфан Эрыксан.**

**Freemuse Award**

Міжнародная прэмія, якая ўручаецца за «выдатную працу на карысць свабоды музычнага выказвання». Першым узнагароду атрымаў у 2008 рэгі-спявак з Кот-д'Івуара Тыкен Джа Факолі, якога фактычна выслалі з роднай краіны і пагражалі расправаю за песні з крытыкаю ўладаў. Freemuse Award таксама атрымлівалі Рамі Эсам — музыка з Егіпта, якога назвалі «спеваком рэвалюцыі», падчас падзеяў у Каіры ў 2011 яго жорстка збілі пры разгоне акцыі; курдскі музыка Ферхат Тунч, якога за яго творчасць прысудзілі да месячнага турэмнага зняволення; Піт Сігер — знакаміты амерыканскі фолк-спявак ды грамадскі актывіст.

**— А практыка «чосу» які досвед вам дала?**

— Вялікі канцэртны досвед. Як працаваць з голасам, калі шмат канцэртаў, як з публікай працаваць. Таму што ў юнацтве і маладосці я баяўся гаварыць з публікай наагул. Нейкія комплексы былі. А потым распрыгонілася пасля «Крамбамбулі». Менавіта пасля карпаратыўных канцэртаў, як ні дзіўна. Такую публіку трэба падымаць. Палова ўвогуле не ведае, хто ты такі стаіш на сцэне. Цікава, калі IT-кантора наймае «Менск-арэну» і тры тысячы каўбасіцца. І там без праблем і «Жыве Беларусь», і ўсё такое. Цяпер наогул усё гэта легла. Грошай няма ў людзей. Але я ўжо ўсё ўмею.

**— Быў такі роспачны ваш артыкул напрыканцы мінулага года. Вы напісалі, што музыкі перасталі быць прарокамі. Гэта пра беларускіх музыкаў?**

— Думаю, гэта сусветная тэндэнцыя. Музыка паступова ідзе ў сферу абслугі. І нават рок-музыка. Раней, асабліва для савецкіх людзей, гэта была амаль што рэлігія. Нават айчынныя выканаўцы — «Крама», «Уліс». Гэта былі тыя, хто ведае і гаворыць больш, чым могуць сабе дазволіць іншыя. А цяпер нейкае такое — патанцаваць... Але, можа, я пагарачыўся.

**— Але вы пісалі, што вам трэба прызвычаіцца да гэтага часу. І як?**

— У гэтым часе ўсё па-іншаму. Трэба прызвычаіцца да сваёй ролі ў гэтым усім. Калі новы альбом пампуе 20–30 тысяч, то гэта досыць сумныя вынікі. Гэта адзін стадыён. Хоць, можа, я змрочна гляджу на рэчы, бо я ў дэпрэсіі.

**— Паводле цяперашняга заканадаўства, вы дармаед?**

— Безумоўна. Безумоўна. Хоць я чалец творчага саюза — можа, залічыцца?

**— Падатак будзеце плаціць?**

— Не, гэта вар'яцтва. Мне 10 год забараняюць граць канцэрты, а я да іх на каленях папаўзу даведку прасіць. І плаціць я не буду. Хай яны судзяць мяне.

Мне, парушаючы свой жа закон, забараняюць граць канцэрты. З «гастролькамі» яны яшчэ фармальна маюць права. Але некалькі гадоў забаранялі, калі было абсалютна ліберальнае канцэртнае заканадаўства. Яны проста тэлефанавалі ў клуб. А калі клуб упарціўся і праводзіў канцэрт, назаўтра прыходзіла праверка — і 20 мільёнаў штрафу. Усе выдатна зразумелі, што гэтых выканаўцаў запрашаць не варта. Хоць і народ збіраецца, але штрафы большыя. І пасля гэтага я яшчэ павінен плаціць ім грошы?

Гэта трэба піярыць па ўсім свеце. У нас прынята так: забаранілі музыкаў — і яны сядзяць і маўчаць, чакаюць, пакуль ім дазволяць іграць. Бо лічаць, што калі яны будуць піярыць, то ім тады ўжо ніколі не дазволяць. Гэта абсалютна дзікая сітуацыя. Міхалок наўпрост да іх ідзе *(просіць дазволіць канцэрт. — АД)*. Яны з ім сустракаюцца, нешта гавораць, паціскаюць руку. А потым «этыленгліколь пацёк».

**— Будзеце звяртацца ў камісію пры Мінкульце, каб прызналі вас «творцам»?**

— Лічыць ці не лічыць кампазітарам... Нотная грамата... у XXI стагоддзі? Нотная грамата робіцца так: набіраеш на клавіятуры песню, націскаеш гузік — і з друкаркі выходзяць ноты. Вось і нотная грамата. Я так рэгіструю ў Польшчы свае творы. Хай мяне судзяць, я згодны. Хай будзе паказальны працэс.

**— Вы спадзяваліся, што канцэрт у памяць Ганны дазволяць?**

— Гэта нейкае дзікунства зусім. Сапраўды, канцэртная зала «Мінск» калісьці для нас шмат значыла. Першымі яе «ўзялі» Зміцер Вайцюшкевіч з «Крыві». Раней беларускія выканаўцы сольнымі канцэртамі такіх залаў не збіралі. А пасля мы пачалі штурм — і «Крамбамбуля», і «N.R.M.». Практычна культавае месца зрабілася. Калі праводзіць, то, безумоўна, там.

Я адразу казаў, што так і будзе. Для іх само прозвішча ўжо як чырвоная анучa для быка. З гэтымі забаронамі ў адносінах да мяне і да Міхалка, думаю, нічога не зменіцца. Яны бачаць, што ім за гэта не толькі нічога не будзе, але і, наадварот, пахваляць, падвышэнне дадуць. Такія пільныя, малайцы. Упільнавалі. Не далі зараз гэтай...

**— Што памяняецца для вас у музыцы пасля таго, як Ганна сышла?**

— Я баюся пра гэта думаць. У сэнсе пісання песень мала што зменіцца. А вось у вельмі істотнай частцы прасоўвання, арганізацыі канцэртаў, стратэгіі, тактыкі... Я сам сёе-тое навучыўся рабіць, але таленту няма. А тут трэба яго мець. У Ганны ён быў. Гэта таксама творчасць, разумееце? Я пакуль проста не хачу пра гэта думаць.

**— Не будзем пра гэта гаварыць?**

— Не.

**Аляксандра Дынько, радыё «Свабода»**

# Ролі Усевалада Фальскага

Пра пакручасты лёс наркама замежных справаў у першым савецкім урадзе Беларусі і аднаго са стваральнікаў нацыянальнага тэатра піша гісторык Ніна Стужынская.

Адна з самых знакамітых пабудоў Мінска — Пішчалаўскі замак. Спіс знакамітых сядзельцаў гэтай турмы ўражвае: паўстанцы Каліноўскага, Дунін-Марцінкевіч, Колас, Гарун, Дзяржынскі... Трэба ўзгадаць і «айцоў» беларускай дзяржаўнасці, носьбітаў ідэі вызвалення ад надакучлівай апекі Масквы. У 1919 камеры Пішчалаўскага замка запоўнілі беларускія міністры першага савецкага беларускага ўрада, учарашнія паплечнікі прышлых бальшавікоў-франтавікоў пад загадам Мяснікова і Кнорына.

Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь была абвешчаная Маніфестам Часовага рабоча-сялянскага ўрада ў першы дзень новага 1919-га, а ўжо ў лютым 1919 міністраў ССРБ суправадзіў у турму камендант Мінска, сумнавядомы Крывашэін, каманда якога разагнала Усебеларускі з'езд у снежні 1917-га. Быў «госцем» найстарэйшай менскай турмы і Усевалад Фальскі, які ў першым савецкім урадзе Беларусі меў партфель міністра замежных спраў. Перад беларускай культурай гэты чалавек заслужыўся як адзін са стваральнікаў нацыянальнага тэатра.



Фрагмент карціны Леаніда Дударэнкі «Мінск, 1919» (1977). Сімвалічна, што за спінамі Чарвякова і Жылуновіча стаіць Мяснікоў. Першы злева, магчыма, Усевалад Фальскі.

### «Малодшыя браты» і крамлёўскі інтрыган

Калі сёння некаторыя ўзгадваюць ролю Сталіна ў фармаванні беларускай дзяржаўнасці, дык яны маюць рацыю. Тагачасны наркам па справах нацыянальнасцяў зрабіў усё, каб пазбавіць беларускіх палітыкаў рэальнай улады. Бальшавіцкія партыйныя камітэты, якія стварaліся на Заходнім фронце і пасля запанавалі ў прыфрантавой Беларусі, адыгралі ролю траянскага каня. Іх члены, выпадковыя людзі, выканалі волю крамлеўскіх уладароў. За дэмагагічнымі заявамі аб праве нацый на самавызначэнне бальшавікі не хавалі планаў аднаўлення імперыі ў новым савецкім фармаце. Празаходні



Усевалад Фальскі. Фота са следчай справы.

вектар урада абвешчанай у сакавіку 1918-га Беларускай Народнай Рэспублікі вельмі турбаваў Маскву.

Цынічная ўсмешка лёсу: вуліца побач з Валадаркай да гэтага часу носіць імя аднаго з самых зацятых знішчальнікаў беларускай дзяржаўнасці. І плошча імя Аляксандра Мяснікова (Мяснікяна) таксама нікуды не знікла з мапы горада. Яго заслугі перад Беларуссю можна пачаць з гісторыі пра тое, як ён правалў абарону і здаў Мінск нямецкім войскам у 1918 г. Затое яго таленты праявіліся ў партыйных інтрыгах і спробах стварыць для сябе тэрыторыю панавання. Як сведчаць крыніцы, яго амбіцыі франтавога «дыктатара» ўлічваў Сталін, калі ствараў супрацьвагу мясцовым дзеячам і гуляў у «дзяржаўнасць» з беларускімі палітыкамі.

У лісце ад 29 снежня 1918 Мяснікову і Калмановічу Сталін пісаў: «Сёння выязджаюць у Смаленск беларусы. Вязуць з сабой маніфест. Просьба ЦК партыі і Леніна прыняць іх, як малодшых братоў, можа быць, яшчэ недасведчаных, але гатовых аддаць сваё жыццё партыйнай і савецкай працы. Праклamаванне ўрада мусіць адбыцца ў Мінску».

«Малодшым братам», даверлівым беларусам, спрактыкаваны палітычны інтрыган, хаваючы ўсмешку ў вусы, падрыхтаваў ролю марыянетак, а затым і ахвярных авечак.

### Жорсткае расчараванне

Канферэнцыя бальшавікоў у Смаленску (потым гэта мерапрыемства атрымала назву першага з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі) абвясціла аб стварэнні Савецкай Сацыялістычнай Беларусі. Партыйны сход фактычна падмяніў установчы сход і парламент краіны. Фракцыі левай плыні Усебеларускага з'езда, адным з лідараў якой быў Усевалад Фальскі, недальнабачна падтрымалі гэты манеўр бальшавікоў. Са жніўня 1918 Фальскі з сябрамі, беларускімі камуністамі, знаходзіўся ў Маскве і браў удзел у стварэнні беларускай секцыі РКП(б). Наш герой быў у спісе тых «малодшых братоў», якіх Сталін прапанаваў Мяснікову і Ко як партнёраў у справе пабудовы беларускай рэспублікі ў савецкай абгортцы.

«Беларусы далі згоду на вядомае вам пагадненне з дзвюма агаворкамі, — пісаў Сталін Мяснікову. — 1. Старшыня не бярэ партфеля, праз што ў склад урада ўводзіцца яшчэ адзін член, які мае ўзяць партфель па замежных справах — Усевалад Фальскі...». Такім чынам, партфель міністра Фальскаму дастаўся праз папярэдні гандаль з маскоўскімі бальшавікамі і рэальныя саступкі.

Але пасля Першага Усебеларускага з'езда Саветаў (2—3 лютага 1919 г.) надышло жорсткае расчараванне. Бальшавікі не збіраліся дзяліцца ўладаю з саюзнікамі. І хутка пазбавілі беларускаў міністэрскіх партфеляў. А нанаствораную ССРБ — усходніх тэрыторый. З'езд ратыфікаваў далучэнне Магілёўскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў да РСФСР. Высокі госць з'езда, праваднік маскоўскай палітыкі Якаў Свярдлоў, патрабаваў аб'яднання Літвы (амаль без тэрыторы) і Беларусі, каб «засцерагчы гэтыя рэспублікі ад небяспекі нацыянальна-шавіністычных імкненняў». А калі «імкненні праявіліся», то міністраў Усевалада Фальскага, Восіпа Дылу і Фабіяна Шантыра закрылі ў турму.

### «Кемлівыя бальшавіцкія чэрці»

Інфармацыю пра стыль кіравання Мяснікова ў Мінску дае заява мужа і жонкі Пятра і Ірмы (Гельрых) Пятровых. Яны падалі яе ў лістападзе 1920 у канфліктную камісію ЦК РКП (б), калі «стваральнік беларускай дзяржаўнасці» паспрабаваў падмяць пад сябе маскоўскі партыйны камітэт. Масквічы, шукаючы кампрамат на гарачага армяніна, разварушылі яго мінскае мінулае. У дакуменце адзначалася, што «ў 1919 г. Мяснікоў дапускаў расстрэлы без усякага разбору, пакрываў п'янства адказных работнікаў, хаваў спекуляцыі сярод сваіх, дзейнічаў самачынна...» Пятровы паведамлялі і пра незаконныя арышты членаў Часовага урада ССРБ, высылку іх за межы рэспублікі.

Мала дзе ўзгадвалася, што Свярдлоў на «гістарычны» з'езд Саветаў у Мінск прыехаў не адзін. У непрыгожай справе адабрання тэрыторый і фактычнага знішчэння толькі што народжанай ССРБ яму дапамагалі член прэзідыума Усерасійскага выканаўчага камітэта Леў (Лейба) Сасноўскі, спрытны журналіст бальшавіцкіх выданняў і прадстаўнік ВЧК, і Якаў (Янкель) Юроўскі — адзін з арганізатараў забойства царскай сям'і, злавесны сімвал той эпохі. Юроўскі быў і адным з ініцыятараў пераафармлення Савецкай Беларусі ў палітычную і дзяржаўную пустышку Літбел (Літоўска-Беларускую Рэспубліку). Дэлегаты — не выпадковыя, адабраныя па прынцыпе лаяльнасці мінскім бальшавікам людзі — і тыя не разумелі, навошта касуецца ССРБ і ствараецца нейкі гібрыд Літбел. «Беларусаў ліха шальмавалі», адзначалі сучаснікі падзей.

Дык што святкуем на пачатку кожнага года? Галоўныя, з правамі прамаўляць ад імя афіцыёзу, гісторыкі краіны не мінаюць тэму ўсталявання беларускай дзяржаўнасці і не забываюцца на падзякі ў адрас «айца народаў». Часцяком узгадваюць працу галоўнага рэдактара часопіса «Родіна» Ю. Барысёнка «На крутых поворотах белорусской історіі». Дарэмна не цытуюць яе. Пра спрытную кампанію Мяснікова ў Мінску ён напісаў наступнае: «Кемлівыя бальшавіцкія чэрці на чале з самім таварышам Сталіным трывала ўссілі на беларускую палітыку і ператварылі яе (разам з украінскай) перш за ўсё ў дзейсную зброю барацьбы з неспакойным суседам (Польшчай —аўт.)». Цынічная, але праўдзівая высноўа пра сутнасць «братэрскай» палітыкі.

### Чырвонаармейцы супраць камісараў

Але ж вернемся ў Мінск 1919-га. Падчас візіту Свярдлова і іншых маскоўскіх гасцей, да якіх са скаргамі на Мяснікова кінуліся мясцовыя камуністы, усплыла непрыгожая гісторыя з увядзеннем незаконнага надзвычайнага падатку. Так мінскі бальшавіцкі ўрад спрабаваў вырашыць пытанне папаўнення казны. Рабочыя і дробныя гандляры, якія не выканалі патрабаванне міністра фінансаў ва ўрадзе Мяснікова І.Рэйнгальда, былі кінутыя за краты. Гэта выклікала ўсеагульнае абурэнне. Нават чырвонаармейцы адмовіліся ахоўваць турму і на стыхійным мітынгу каля яе муроў прынялі рэзалюцыю «супраць камісараў». «Мы ўступілі ў Чырвоную Армію для абароны рабочых і сялян, але не для таго, каб рабаваць у інтарэсах камісараў», — цытавалі пастанову мітынгу аўтары скаргі ў ЦК.

Муж і жонка Пятровы выдалі сакрэтныя планы ўрада Мяснікова: «арыштаваць некаторых яўрэяў-спекулянтаў і расстраляць іх, каб такім чынам прадухіліць магчымасць пагромаў». Быццам вінаватых улада ўжо знайшла і пакарала. Для выканання, сцвярджалі Пятровы, быў знойдзены нейкі хлопец, які за 35 тысяч, якія яму былі дадзены ў ЧК, павінен быў выканаць заданне. Выканаўца «інсцэніроўкі Мяснікова» быў хутка расстраляны. Гісторыя адносна часоў уладарання ў Мінску Мяснікова, Кнорына і Яркіна (старшыні ЧК) не новая. Тэрор, развязаны ведамствам Яркіна, стаў ледзь не галоўным спосабам ажыццяўлення і ўтрымання ўлады самазванцаў.

Апісалі камуністы Пятровы і непрыгожую гісторыю з арыштам беларускіх міністраў.

Мяснікоў, баронячыся ад крытыкі, тлумачыў, што сябры ўрада выявілі сябе «як контры», агітавалі супраць крамлёўцаў. «Становішча ў Мінску было трывожнае. Да шэрагу мер, прынятых для ўсталявання цвёрдай улады, адносіцца і арышт, здаецца, трох былых членаў урада, — ледзь успомніў беларусаў Мяснікоў. — Яны былі арыш-



**Ніна Стужынская**

гісторык, кандыдат гістарычных навук. Займаецца даследаваннем антысавецкага супраціву 1920-х і палітычных рэпрэсій у Беларусі. Аўтарка кнігі «Беларусь мяцежная: з гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву: 20-я гг. XX ст.».

таваныя ЧК са згоды і дазволу цэбэ (Цэнтральнага бюро —**аўт.**) партыі і Прэзідыума ЦВК Беларусії...». Спасылаўся Мяснікоў і на рашэнне ЧК. «ЧК Беларусіі лічылася адной з найлепшых ЧК Расіі. Яе старшыня — т. Яркін — у свой час заслужыў поўнага даверу і павагі ВЧК у асобе т. Дзяржынскага. Усе пастановы ЧК выносіліся з ведама і згоды цэбэ — ЦВК і пад неаслабным наглядам цэнтру», — спасылаўся ён на ўзгадненне з Масквою пытання аб арышце беларускіх міністраў. Успомніў «дыктатар» Мінска і пра расстралянага ў 1920-м невядома за што Асобым аддзелам 16-й арміі Фабіяна Шантыра.

Падрабязнасці гісторыі расправы з былым міністрам Часовага ўрада, паэтам і журналістам дагэтуль невядомыя. Не маем мы і поўнай біяграфіі Усевалада Фальскага. Яе невялікія фрагменты былі знойдзеныя высілкамі гісторыкаў Віталя Скалабана і Вячаслава Селяменева.

### «Бясхозныя» міністры

Пра першую «ходку» палітыка і стваральніка беларускага тэатра вядома няшмат. Ад 8 да 10 лютага 1919 Фальскі і яго паплечнікі, міністры Дыла і Шантыр, па чарзе займалі месцы ў камерах. Арышты і ператрусы ў іх кватэрах нічога не далі. 11 лютага арыштантаў наведалі сам Крывашэін і следчы ЧК. Цэнтральнае бюро КПБ, дзе ўладу захапілі Мяснікоў, Кнорын і Калмановіч, паабяцала следчым кампрамат на арыштаваных, але так нічога і не далі. Больш за тое, усе настаўленыя дзяржаўныя ўстановы трымалі дыстанцыю ад гэтай бруднай справы, ніхто не ўзяў на сябе адказнасці за арышт. Паводле правілаў турэмнага ўтрымання, сядзельцы мусілі быць на ўліку ЧК, пракуратуры ці нейкіх іншых органаў, якія пералічвалі сродкі на ўтрыманне арыштантаў. Таму хутка пасля першага арышту «бясхозных» беларусаў вызвалілі. Але ведамства Яркіна знайшло падставы для іх новага арышту і накіравання ў Смаленскую вязніцу. У палітыкаў адабралі і больш не вярнулі партыйныя пасведчанні. Пазней Фальскі ўзгадае: «Выбыў з партыі аўтаматычна».

Рэпрэсіўная кампанія суправаджалася нападамі на беларускую мову і культуру ў галоўным партыйным выданні — газеце «Звезда». Бальшавікі з групы Мяснікова, нейкія Бабенка, Ханін, Радзівілоўскі, гучна заклікалі да расправы над «самастойнікамі» аж да растрэлу. Хутка гэтыя авантурысты апынуцца самі ў Смаленскай турме за крымінальныя злачынствы. Гэта сведчыць, што Мяснікоў не грэбаваў сумнеўнымі знаёмствамі.

Фальскага адпускалі і саджалі зноў. У турэмнай справе за 1921 год ёсць пазнака Асобага аддзела Заходняга фронту, што ён быў вызвалены са Смаленскай катаржнай турмы 7 мая 1919. Былы камуніст і міністр перайшоў фронт і вярнуўся ў заняты польскімі войскамі Мінск. Тут яго чакала жонка і калегі па тэатральным мастацтве.

Вайна вайною, а справа пабудовы нацыянальнага тэатра працягвалася. Фальскі працаваў разам з Ігнатам Буйніцкім, Фларыянам Ждановічам, Уладзіславам Галубком. Ён выконваў вядучыя ролі ў «Паўлінцы» Янкі Купалы, «Модным шляхцюку» Каруся Каганца, іншых пастаноўках Таварыства беларускай драмы і камедыі.

За сценамі тэатра ён паспяваў ствараць моладзевыя гурткі, браць удзел у грамадскіх арганізацыях. Фальскі быў сябрам Беларускай арганізацыі дапамогі ахвярам вайны. Пасля стварэння ў кастрычніку 1919 Беларускай вайсковай камісіі працаваў там перакладчыкам з польскай і беларускай моваў на расійскую, адначасова быў намеснікам начальніка лясной гаспадаркі.

### Вясёлы з вуліцы Вясёлай

Натура палітыка адпавядала назве вуліцы, на якой ён жыў. Вуліца месцілася каля Кашараў, колішніх вайсковых казармаў. Лагічна, што каля жытла ваенных вырасла мноства піўных і іншых забаўляльных устаноў. Асоба творчая, былы міністр і заўсёды артыст Фальскі жыў з густам. Гэта адзначаў і асведамляльнік ЧК, нейкі Біеў: «Фальский — мот, кутіла, поклоннік женского пола, — з непрыхаванай зайдрасцю даносіў сексот. — По слухам, жівет на шірокую ногу».

Сціплая анкета турэмнай справы Фальскага, што змясцілася ў школьным сшытку, паведаміла: «Фальскі У.С., беларус, 1886 г.н. (зараз ведаем дзень нараджэння — 7 сакавіка), 36 гадоў (35 на той момант — **аўт.**), адукацыя вышэйшая, прафесія — лесавод, акцёр; месца жыхарства — Мінск, вул. Вясёлая (зараз квалак Ульянаўскай ад Чырвонаармейскай да моста — **аўт.**), 26, кватэра 2, артыст Белтрупы. Скончыў музычную вучэльню. Да арышту ў 1921 займаў пасаду намесніка загадчыка аддзела мастацтва, вучонага сакратара Акадэмічнага цэнтра наркамата асветы ССРБ. Рост — 2 аршыны 10 вяршкоў (186 см), вочы карыя, валасы чорныя, нос, рот правільныя». Па ўсім мужчына прыкметны, прыгожы брунэт, росту і па нашых часах немалога.

### Спявалі разам у хоры

Трэці раз няўрымслівы Фальскі быў арыштаваны 3 верасня 1921 за ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі «Зялёны дуб» (ЗД). Пры канцы верасня таго года добрая палова актывістаў беларускага руху, у тым ліку і дзеячы культуры, апынулася за кратамі. Такі быў вынік аперацыі «Крот» па ліквідацыі цэнтраў падрыхтоўкі антысавецкага паўстання, якую ажыццяўлялі маскоўскія і беларускія чэкісты.

У бурлівым 1921-м Мінск стаў ледзь не галоўным пунктам у планах замежных антысавецкіх цэнтраў. На канец жніўня «Народны саюз абароны радзімы і свабоды» рускага эсэра і тэрарыста Барыса Савінкава разам з генералам Булак-Балаховічам і беларускімі партызанамі «Зялёнага дуба» планавалі паўстанне на беларускіх тэрыторыях. Мэта — звяржэнне савецкай улады і стварэнне плацдарма для руху на Маскву і Петраград.

І калі разведчыца «Зялёнага дуба» Ганна Доўгерт завітала на вуліцу Вясёлую, яна перадала Фальскаму не толькі прывітанні і падарункі, але і просьбу аб актыўным удзеле і падтрымцы баявой акцыі. Фальскі і камандзір «Зялёнага дуба» атаман Дзяргач (Вячаслаў Адамовіч) былі знаёмыя. Адамовічы мелі ў Мінску дом на вуліцы Міхайлаўскай. Дзяргач з Фальскім нават разам служылі беларускай Мельпамене: спявалі ў хоры знакамітага капельмайстра Уладзіміра Тэраўскага. Увогуле, і Фальскі, і іншыя сябры мінскай зеленадубскай арганізацыі сцвярджалі на допытах, што знаёмства з Дзергачом адбылося менавіта ў хоры Тэраўскага.

Сумяшчэнне палітычных і творчых роляў у тагачасным грамадстве было з'явай пашыранай. Літаратурныя творы, выступы на тэатральнай сцэне — цудоўныя сродкі папулярызацыі асобы і камунікацыі ў розных асяродках.

Ганна патлумачыла Фальскаму, што зяленадубцы змагаюцца за незалежную Беларусь. Гаспадар кватэры на Вясёлай запрасіў сувязную ў «Беларускую хатку», клуб мясцовай інтэлігенцыі, і паабяцаў падрыхтаваць падборку савецкіх газет. Савецкая прэса была паўнавартаснай крыніцай інфармацыі, і польская выведка плаціла неблагія грошы за газеты. Паміж Дзергачом і Фальскім завязалася перапіска. Як вынікае з крымінальнай справы, першы ліст атамана мінская ЧК перахапіла ўжо 10 жніўня. Адкуль чэкісты ведалі? Хаўруснік «Зялёнага дуба», савінкаўскі Народны саюз, быў наскрозь прабіты савецкай агентурай, «крот» завёўся ў самым блізкім атачэнні Савінкава.

### «Называл попавшіхся в этом деле ліц дуракамі»

У расследаванні складаных палітычных спраў чэкістам дапамагаў немалы штат унутрыкамерных агентаў — «наседак». Сексот Сцепанішчаў паведамляў, што ў ноч з 10 на 11 верасня ў камеру прывялі Язэпа Лёсіка. З размовы вязняў ён толькі і зразумеў (гаворка ішла па-беларуску), што пры яго затрыманні нейкія важныя спісы ўдзельнікаў беларускіх курсаў не былі знойдзеныя, аб чым з палёгкай гаварыў новы арыштант. Усе гэтыя беларускія чытанні, тэатральныя пастаноўкі, лекцыі — зрабіў выснову сексот — адыгрываюць вялікую ролю ў падрыве савецкай улады.

Другая «наседка» даслала следчаму Шульману даведку: «Доношу до Вашего сведенія, что на днях на прогулке я слышал, как одін із арестованных

**Усе гэтыя беларускія чытанні, тэатральныя пастаноўкі, лекцыі — зрабіў выснову сексот — адыгрываюць вялікую ролю ў падрыве савецкай улады**

по фаміліі Фальскій, белорус, вел разговор с другім арестантом, фаміліі которого не знаю, об Ігуменской організаціі, называя попавшіхся в этом деле ліц дуракамі, і добавіл: «Хорошо, что мінскіе пока не пострадалі», прі этом упомінал фамілію одного із врачей городской больніцы, которого в случае ареста моглі бы что-то обнаружіть». Доктар Сямён Валачковіч, дзядзька Дзергача, і яго памочнікі са шпіталя таксама былі арыштаваныя і асуджаныя на розныя тэрміны зняволення.

Садзейнічанне зеленадубцам шмат каму з менчукоў каштавала жыцця. Тэрыторыя Пішчалаўскага замка была і месцам выканання смяротнага пакарання. 21-гадовая Ганна Доўгерт і тры яе паплечнікі, у тым ліку і памочнік кіраўніка хора Тэраўскага Уладзімір Кубар, у ноч з 18 на 19 кастрычніка 1921 былі расстраляны ў турэмным двары.

### Спроба самагубства?

Фальскі і Тэраўскі 23 верасня 1921 таксама былі асуджаныя Калегіяй ЧК Беларусі да расстрэлу. Але сваякі і калегі звярнуліся з хадайніцтвам у Маскву. Просьбу аб памілаванні падтрымалі і некаторыя беларускія нацыянал-камуністы. І гэта мела вынік. Новы паварот лёсу засведчыла папера: «У змену пастановы Калегіі ЧКБ г-д Тэраўскага і Фальскага зняволіць у лагер тэрмінам на 5 год. Накіраваць у Смаленск Асобы аддзел Заходняга фронта для зняволення ў Смаленскую катаржную турму для строгай ізаляцыі, без права выхаду на знешнія работы».

Аднак чэкісты з пераводам у Смаленск не спяшаліся, допыты працягваліся. Нарэшце Фальскага падрыхтавалі да этапу. Тое, што здарылася потым, пакуль не мае тлумачэння. Фальскі ўскрыў шклом вены на левай назе. Што гэта было? Спроба самагубства ва ўмовах штодзённага ціску ці выпадковая траўма? Перавод у Смаленск часова быў адменены. Вязень страціў шмат крыві.

Як сведчыць заключэнне загадчыка хірургічнага аддзялення Губернскай савецкай бальніцы знакамітага доктара Яўгена Клумава, рана пагражала калецтвам. Жонка Фальскага — Кацярына Чачаноўская (Фальская) — звярнулася да старшыні Савета народных камісараў Беларусі Аляксандра Чарвякова. Жанчына прасіла кіраўніка ўрада, які, безумоўна, ведаў асабіста яе мужа, не аб вызваленні, а толькі аб пераводзе з турмы ў канцлагер, дзе, яна лічыла, муж зможа залячыць нагу. Хутчэй за ўсе, на ліст Чарвякоў не адказаў. У пераводзе ў гарадскі шпіталь і аперацыі, якую меўся зрабіць Клумаў, Фальскаму было адмоўлена. 11 студзеня 1922 ЧК накіравала Фальскага ў шпіталь ДОПРа для аперацыі. На што начальнік турмы з раздражненнем адказаў: «Прыняць не можам, паколькі няма хірургічнага аддзялення».

### «Хадайніцтва адхіліць»

Турэмная перапіска Фальскага з кіраўніцтвам розных савецкіх устаноў сведчыць аб высілках вязня проста выжыць і вярнуцца да ўлюбёнай справы. Яму не ўдалося пазбегнуць Смаленскай катаржнай турмы, куды яго этапавалі ў маі 1922 г. Але намаганні сяброў і калег па мастацкім цэху (у той час людзі яшчэ не баяліся хадайнічаць за арыштаваных) далі плён. Пастанова аб датэрміновым вызваленні Фальскага падпісаная тагачаснай, так бы мовіць, зоркай Мінскага ЧК—ГПУ, вядучым следчым па ўсіх зеленадубскіх справах Афрыканам Пятровым. «1923 г. 30 мая. Разгледзеўшы справу №2505/арх. па абвінавачанні гр-н Тэраўскага У. В. і Фальскага У. С. за ўкрывальніцтва шпіёнкі Зайцавай (Марыя Зайцава — псеўданім Ганны Доўгент — аўт.), захоўванне зброі і дачу лжывых паказанняў, асуджаных пастановай Калегіі былой ЧК Бел. ад 21 верасня 1921 г. да пазбаўлення волі тэрмінам на 5 гадоў, скарочана па амністыі 1922 г. на адну траціну, пастанавілі: гр-н Тэраўскага і Фальскага, якія ўтрымліваюцца пад вартай у Смаленскім выспраўдоме, датэрмінова з-пад варты вызваліць».

Але вяртанне на радзіму было немагчымым. Нейкі час Фальскі заставаўся ў Смаленску, працаваў справаводам рабфака мясцовага ўніверсітэта. З 1925 жыў у Кіеве, займаў пасаду дырэктара драматычнага тэатра імя Занькавецкай, ліставаўся з калегамі з Інстытута беларускай культуры. Неадназова ён хадайнічаў перад урадам Беларусі, каб дазволілі вярнуцца дамоў. Жорсткая рэзалюцыя «Хадайніцтва адхіліць» ад 26 студзеня 1926 — гэта апошняе вядомае нам дакументальнае сведчанне пра былога міністра і тэатральнага дзеяча. Як, дзе і калі скончыўся жыццёвы шлях Усевалада Фальскага, пакуль застаецца таямніцай.

Фальскі быў рэабілітаваны Вайсковай пракуратурай Рэспублікі Беларусь 6 жніўня 1996 года.



**Аляксандр Мяснікоў — рука Крамля ў першым беларускім савецкім урадзе.**



Святкаванне Юр’я ў вёсцы Пагост Жыткавіцкага раёна. У дзень святога Юрыя (6 мая) сяляне выходзяць у поле, водзяць карагоды, звяртаюцца да Бога з просьбай аб добрым ураджаі, прыносячы ў ахвяру спецыяльна выпечаны і ўпрыгожаны каравай. Абрад захаваўся ў некаторых вёсках на поўдні Беларусі.



Галандскі баец адправіў беларуса Андрэя Арлоўскага ў накаўт у другім раўндзе. Бой у змяшаных адзінаборствах прайшоў у Галандыі на турніры UFC Fight Night 87.



Праграма «Калыханка» падрыхтавала для сваіх гледачоў сюрпрыз: 17 мая ў чарговым выпуску на канале «Беларусь-3» з'явіцца новы лялечны персанаж — яноцік Цёма. «Калыханка» выходзіць штодня на «Беларусь-3» а 20:40.



Дэманстрацыя неанацыстаў прайшла 1 мая ў шведскім горадзе Бурлэнге. У ёй узялі ўдзел 300 чалавек з «Паўночнага руху супрацііву». Адзіны, хто актыўна выступіў супраць маршу неанацыстаў, — шведская актывістка Тэс Асплунд. Фотаздымак Давіда Лагерлёфа зрабіў яе знакамітай.



Упершыню мэрам Лондана стаў мусульманін. Кандыдат ад лейбарысцкай партыі Садык Хан — мусульманін, імігрант з Пакістана, адзін з васьмярых дзяцей сямейнай пары, якая прыехала ў Брытанію ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. На пасаду мэра Лондана балатаваліся яшчэ дзесяць чалавек.



## Анекдоты і жарты

** *

Жыць трэба так, каб пра цябе напісалі ў «Нашай Ніве».

* * *

Паспей выйсці замуж да мільянера (ажаніцца з мільянеркай) да 30 чэрвеня. Бо 1 ліпеня — дэнамінацыя.

* * *

Для касіраў супермаркетаў у пекле спецыяльна стаяць дзесяць катлоў, але працуюць толькі два.

* * *

– У вас відавочныя псіхічныя адхіленні.
– Гэта для вас яны адхіленні, а для мяне радасці.

* * *

– Скажы мне што-небудзь такое агіднае, пазбаўленае ўсялякага сэнсу!
– Трыганаметрыя.

* * *

Мае джынсы, якім 20 гадоў і якія я пару разоў ужо парваў, калупаючыся на дачы, становяцца ўсё больш і больш моднымі.

* * *

Як кажуць у антыдопінгавым камітэце: «Цяпер перамагчы можа кожны, а ты паспрабуй аналізы здай».

* * *

Схадзіў да варажбіткі, за 20 баксаў яна сказала, што сёння ў сям'і будзе скандал. Прыйшоў дадому і абазваў цешчу. Не прападаць жа грошам!

* * *

Ад паўстання машын нас выратуюць цёткі з бухгалтэрыі. Вылазіш з хованкі, бачыш зламаны Скайнэт — і цётка Аляўціна: «Я нічога не націскала!»

## «НН» сто гадоў з вамі

**Нясвіж.** Пагода цэлы красавік служыць такая, што ў пяску яйка спячы можна. Суш ударыла, і людзі скваппна выглядаюць дажджу. Жыта ўжо ідзе ўгару, і бульба ўжо ў зямлі. Некаторыя людзі чуўшы забабонную вестку, як унясеш серп улетку ў хату, дык будзе дождж. Адна дзяўчына ўносіла, але дарма: пагода як была сухой, так і асталася, толькі дзяўчына пераканалася, што забабоны — гэта брахня, створаная цёмнымі людзьмі.

**«НН». №18-19. 1911.**

**Гонар аператара БТ.** «Здароў, Дзянісе. Выдатная ідэя пра наркотыкі і порна. Студэнты журфака на Акрэсціна цябе ніколі не забудуцца», — смс такога зместу стала прычынай для судовага разбіральніцтва. Некаторыя са студэнтаў журфака выказалі сваю агіду ў твар аўтару сюжэта пра намётавы гарадок Дзянісу Бальшакову: іх пачалі выклікаць у дэканат «на размову».

**«НН». №18. 2006.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 11.05.2016.
Замова №1708.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614

